E-mail: tbm@lingvo.minsk.by

# Новы Час

№ 2(2) БЕЛАРУСКАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА 18 ВЕРАСНЯ 2002 ГОДА

# Страчаная школа



Школка, дзе вучыліся летась гэтыя прыгожыя дзеткі, з гэтай восені ўжо не працуе. Гадоў трыццаць таму ў нас руйнавалі «неперспектыўныя» вёскі. У выніку вёска страціла шмат насельніцтва. Цяпер закрыццё напаткала «неперспектыўныя школы», нібыта ў мэтах атрымання эканоміі. Як адгукнецца гэтакая эканомія на асвеце і здароўі дзетак? Чытайце артыкул на стар. 5

## Казусы

## Міліцыя, Мір, «Новы Час»



Ледзь паспеў выйсці першы нумар газеты, як міліцыя канфіскавала частку накладу. Здарылася гэта ў Міры на Дзень беларускай пісьменнасці. Магчыма, не трэба было везці на святкаванне пісьменнасці два пакункі з пілотнага тыражу газеты для распаўсюджвання сярод прыхільнікаў беларускага слова. Але хто мог уявіць, што першы нумар газеты, якая выдаецца ТБМ, можа быць канфіскаваны без дай прычыны. Бо ў нікога болей на тым свяце нічога не сканфіскавалі. Ні творы народных умельцаў, ні кнігі на рускай мове, ні жывых парсючкоў і гусяў, якіх прывезлі на духоўнае свята пісьменства мясцовыя людзі.

Што застаецца думаць? Адно – што гэта рэакцыя на «і» з кропкай і скарочанае «у». Па сваім статуце Таварыства мае права прымаць ахвяраванні ад грамадзянаў, газета была выдадзена менавіта на ахвяраванні простых людзей, зацікаўленых у існаванні роднай мовы. Ахвяраванні за тыя сто газетаў, што забрала міліцыя, гэта кошт бензіну, каб прывезці газеты з Мінска ў Мір. Дык нашто карэліцкая міліцыя затрымала двух сяброў Таварыства, адвезла іх у аддзяленне, адняла газеты? Цяпер паўтара пакунка «Новага Часу» будуць пакрывацца пылам у каморцы пры райаддзеле. Рэдакцыя прапануе карэліцкім міліцыянерам падзяліцца канфіскатам з калегамі з суседніх РАУС. Можа, хоць хто прачытае і наступным годам не выкажа недарэчнай пільнасці.

Рэдакцыя

## «Размаўляем па-беларуску»

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны наладзіла ў верасні акцыю для людзей нашай краіны – браць актыўны ўдзел у пашырэнні сфераў ужытку беларускай мовы. Я пацікавілася пра ўдзел у месячніку «Размаўляем па-беларуску» ў сваіх студэнтаў 4 курса БДУ культуры. Адказы атрымаліся паказальныя. Прапаноўваю іх увазе чытача.

**Наталля Коршук**

Я не заўсёды размаўляю па-беларуску, у мяне няма знаёмых, якія б добра размаўлялі на нашай мове. Але я хаджу ва універсітэт на заняткі, якія выкладаюцца на беларускай мове, пішу па-беларуску канспекты, размаўляю па-беларуску падчас некаторых заняткаў. А яшчэ я шмат чытаю твораў беларускіх пісьменнікаў. Тых, што неабходна чытаць па праграме, і тых, што падабаюцца мне. Зрэдку хаджу ў тэатр імя Янкі Купалы.

Калі гэта ўсё можна назваць удзелам у месячніку «Размаўляем па-беларуску», то сапраўды – я прымаю ў ім удзел.

Працяг на стар. 2

## Кніга Спачуванняў

«Болем у сэрцах людзей дзесяцімільённай Беларусі адгукнулася трагедыя, якая напаткала Злучаныя Штаты Амерыкі 11 верасня 2001 года, калі ў выніку жудаснага тэрарыстычнага акту загінулі тысячы ні ў чым непавінных людзей і былі знішчаны, ператвораны ў руіны буйнейшы ў свеце міжнародны гандлёвы цэнтр у Нью-Йорку.

Жах, абурэнне і смутак агарнулі Беларусь. Беларускі народ, які зведаў шмат драматычных і трагічных старонак у сваёй гісторыі, які стаў ахвярай сталінска-бальшавіцкіх рэпрэсій, выпакутаваў навалу фашызму ў Другой сусветнай вайне, – глыбока спачувае і смуткуе разам з амерыканскім народам у першую гадавіну гэтай страшэннай бесчалавечнай акцыі.

Молімся, каб нідзе і ніколі не паўтарылася тое, што адбылося пад небам Злучаных Штатаў Амерыкі ў той вераснёўскі дзень.

Молім Бога, каб Ён пасяліў у душы кожнага дабрыню, спагадлівасць і любоў да бліжняга.

І верым, што дабрыня пераможа».

Гэтыя словы, прыгожа выпісаныя срэбрам на чорным тле паперы, змешчаны ў адмысловай Кнізе спачування і жалобы, выраблёнай у адзіным паасобніку да першай гадавіны трагедыі XXI стагоддзя.

Працяг на стар. 2



# Кніга Спачуванняў



Самаробная Кніга, як Помнік ахвярам злачынства, перасцерагае і напамінае пра тое, што ў свеце ёсць зло, якое дзейнічае праз чалавечыя помыслы. Гэты фаліянт у багатым скураным пераплёце знаходзіцца ў Чырвоным касцёле святых Сымона і Алены, у Мінску. Тут, 11 верасня а 19 гадзіне, якраз у той час, калі ў ЗША ўшаноўвалі памяць пра загіблых, адбылася імша па ахвярах амерыканскай трагедыі. Пад час жалобнай месы Кніга спачування і жалобы была ўрачыста ўнесена ў храм і ўсталявана ў яго алтары па цэнтры касцёла. Слова да вернікаў прагучала з вуснаў пробашча Уладыслава Завальнюка, прадстаўнікоў амерыканскай амбасады і грамадскай арганізацыі «Сіла ў дружбе». Узнёсласці дзеі надавала гучанне аргану ды духоўныя спевы ў харавым выкананні.

Цягам трыццаці дзён гэтая Кніга будзе знаходзіцца ў касцёле, пасля чаго праз амбасаду яна будзе перададзена ў Кангрэс ЗША. Кожны, хто пажадае, можа стаць суаўтарам, пакінуўшы ў ёй свае словы жалобы і спачування амерыканскаму народу. Ужо сёння мы знаходзім там першыя запісы на роднай мове.

«Нават праз год пасля трагедыі сэрца сціскаецца ад болю і думкі пра тое, што мала каштуе чалавечае жыццё. Розуму ўсім моцным і дужым, сілаў усім родным загінулых», – напісала Надзея Белахвосцік.

«Няхай Бог дапаможа сем'ям бязвінных ахвяраў амерыканскай трагедыі 11 верасня 2001 года. Спадзяюся, што амерыканскі народ застанецца прыкладам свабоды і дэмакратыі ва ўсім свеце», – Алег Трусаў.

«Спачуваю і падзяляю Ваш боль аб загінулых, малюся і прашу пана Бога аб суцяшэнні іх душаў. Жадаю людзям добрай волі і народу Амерыкі росквіту. Акрамя Бога, памятайце, Вы – надзея наша і ўсяго свету», – запісала Анастасія Мароз.

Беларускія тэксты ў гэтай гістарычнай Кнізе-Помніку сведчаць пра тое, што родная мова жыве і будзе жыць вечна, нягледзячы на ўціск і гвалт з боку незычліўцаў сваёй гадоўлі.

Таварыству беларускай мовы дзякуючы ініцыятыве старшыні А.Трусава лёсіла быць далучаным да святой справы падрыхтоўкі гэтай унікальнай кнігі, у якой бралі ўдзел сябры Таварыства, мастакі – Уладзімір Васюк, Вячаслаў Дубінка, Ігар і Аляксей Марачкіны.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА**



# *Вераснёўскія святы*

Першага верасня ўвага краіны засяродзілася на знакамітым замку ў Міры, дзе адзначалі Дзень беларускага пісьменства, аздоблены па савецкай завядзёнцы спартыўнымі спаборніцтвамі і прысадам урадавых чыноўнікаў, у сувязі з чым простыя беларусы ўнутр замка не патрапілі.

З гэтым святам супаў Дзень Ведаў, у які мноства школьнікаў былі прыемна ўсхваляваныя весткай пра пераход на пяцідзёнку – добры падарунак дзяржавы тым дзеткам, што любяць глядзець тэлевізар і боўтацца па двары.

У Заслаўі адбыўся фэст сярэднявечнай культуры з моднымі цяпер рыцарскімі турнірамі. А 8 верасня прыхільнікі святкавання Вайсковай славы беларусаў на Крапіўнінскім полі шанавалі перамогу беларускіх харугваў над рускім войскам у бітве, што мела тут месца паўтысячы гадоў назад. Тут таксама былі рыцарскія клубы, барды, спевы, узнёслыя прамовы пра славу продкаў і неабходнасць абароны суверэнітэту.



У гэты ж час у старажытным Полацку праходзіла рэспубліканскае свята «Дажынкі-2002». Як сведчыць здымак, краіна мае багаты плён працы хлеbarобаў.

А вось мінскае начальства відочна памылілася, прызначыўшы свята горада на сярэдзіну верасня. Было холадна, сонца схавалася, паліў дождж, адчування свята не ўзнікла, а было шырокае шкадаванне, што Дзень Мінска перасунулі з ліпеня на восень.

# *«Размаўляем па-беларуску»*

**Вольга Рыбак**

Аб тым, што ў Мінску праходзіць месячнік «Размаўляем па-беларуску», мне паведаміў мой каханы чалавек. І ён прапанаваў размаўляць з ім па-беларуску. Шчыра кажучы, я гэтага не чакала. Чаму? Напэўна, таму што мой каханы чалавек добра беларускай мовы не ведае, ды і ніколі не імкнуўся ўзбагаціць свае веды. Калі сказаць, што мы з ім заўжды размаўляем па-беларуску, то гэта будзе не так. Але ўсё ж такі імкнемся да гэтага. Калі сустракаем незнаёмыя словы, стараемся запомніць іх.

Што да маіх сяброў, то з адной з іх я заўжды пры сустрэчы размаўляю па-беларуску. На пачатку выразы гучалі не вельмі прыгожа, але з кожным разам нам рабілася ўсё лягчэй размаўляць на роднай мове.

Спадзяюся, што ў гэтай справе да нас яшчэ далучацца і астатнія нашы сябры.

**Таццяна Міцкевіч**

Мой удзел у месячніку невялікі. Ён заключаецца ў тым, што час ад часу мы з сяброўкамі размаўляем па-беларуску, таксама спяваем беларускія песні. Я пачала глядзець беларускае тэлебачанне, слухаць беларускае радыё.

І я спадзяюся, што пасля гэтага месячніка я не перастану размаўляць па-беларуску, хаця б калі-небудзь.

**Алена Шышкова**

Адчуваю, што хвалі гэтага мерапрыемства захапілі і мяне. Мая душа прагне чуць вакол сябе родную мову. Мне падабаецца гаварыць на ёй, адчуваць, як адгукаецца яна ў маім сэрцы.

На жаль, у мяне пакуль не атрымоўваецца ўвесь час гаварыць па-беларуску, бо не ўсе знаёмыя адэкватна рэагуюць. У мяне знікае жаданне размаўляць з імі па-беларуску, чуць іх жартачкі. А яшчэ я люблю чытаць творы беларускіх пісьменнікаў. Ёсць шмат твораў, ад якіх я ў захапленні. Успрымаць чароўную музыку беларускіх слоў незвычайна і прыемна.

Не ведаю, ці можна гэта ўсё прыняць за ўдзел у месячніку. Але пачуўшы пра яго, я стала больш задумвацца аб роднай мове.




**Алена Шаванава**

Я ніколі не задавала сабе гэтага пытання, і нават не задумвалася над гэтай праблемай. Уся справа ў тым, што з дзяцінства я размаўляю выключна на рускай мове, у школе у нас таксама выкладалі на рускай мове, акрамя ўрокаў беларускай мовы і літаратуры.

З такім пытаннем, чаму беларусы не размаўляюць па-беларуску, я ўпершыню сутыкнулася ва універсітэце, і мяне яно вельмі зацікавіла, але адназначна на яго адказаць нельга, бо гэта праблема павінна вырашацца не адным чалавекам ці гуртком, а народам. Кожны павінен усвядоміць, што калі народ не мае мовы, то гэта амаль што і не народ.

Кожны дзень ва універсітэце я на занятках размаўляю на беларускай мове, таксама чытаю беларускамоўныя газеты і часопісы. А з сябрамі я неяк не магу размаўляць на беларускай мове, бо яны да мяне звяртаюцца на рускай. Можа, прычына ў тым, што я ніколі не ставіла перад сабой такой мэты, а трэба было б паспрабаваць, можа, і мае сябры мяне б падтрымалі.

**Святлана Кяпсня**

Асабіста мой удзел у месячніку можна сказаць не надта актыўны. Я вучуся ва універсітэце і на занятках кожны дзень я чую нашу мову, гавару на ёй, чытаю творы беларускіх пісьменнікаў. І яшчэ я магу назваць сябе тым чацвёртым, хто далучыцца, калі трое размаўляюць па-беларуску, хто не меў смеласці пачаць гаворку сам.

**Алена Казлоўская**

Хочаш – не хочаш, а ўдзельнічаем у месячніку – дзе павітаемся, дзе спытаем, а дзе і загаворым з кім. Але гэта вырываецца з цябе неяк само па сабе. Калі ідзеш з заняткаў – яшчэ адчуваеш беларускую мову на вуснах: неяк машынальна размаўляеш па-беларуску з суседзямі па пакою, з сяброўкамі. Яны ведаюць мову, але не гавораць, тут дзейнічае канфармізм: так нельга гаварыць, бо так мала хто гаворыць – я ж буду белай варонай.

Я не асуджаю тых, што маўчаць – гавораць не па-беларуску. Яны яшчэ не ўсвядомілі, што яны беларусы. Занадта доўга нам прамывалі мазгі, і толькі новае пакаленне больш здатна да перамен – у яго ёсць сілы, патэнцыял. Застаецца толькі мець жаданне. Дык давайце дадзім прыклад, як трэба размаўляць па-беларуску.

Гэта правільнае мерапрыемства. Яно падштурхоўвае людзей да добраахвотнасці. Не трэба некуды ісці мітынгаваць, агрэсіўнічаць. Трэба толькі гаварыць, а гаварыць мы можам на беларускай мове... Гэта мерапрыемства – шанец паспрабаваць сябе ў сваёй мове.

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ,**
**першы намеснік старшыні ТБМ,**
**выкладчык БДУ культуры**

# Расійскі

Жнівеньская прапанова прэзідэнта Расіі прэзідэнту Беларусі адмовіцца ад дзяржаўнага існавання і далучыцца да Расійскай Федэрацыі на правах шасці губерняў магла выклікаць у беларусаў толькі пачуццё шчырай абразы. У бальшыні і выклікала, і вобраз адукаванага пецярбуржца шмат страціў ад сваёй ранейшай прыстойнасці.



Паўтораная ў верасні ў пісьмовай форме, гэта значыць афіцыйна, прапанова інкарпарацыі ўжо не дазваляе ні думаць, ні казаць, што У.Пуціну такую думку падсунулі на паперцы нядобрасумленныя чыноўнікі з бліжняга прэзідэнцкага атачэння. Расійскі прэзідэнт менавіта гэтак шавіністычна думае сам і гэтак «прагматычна» плануе будучыню. Узнікае ўражанне, што У.Пуцін проста баіцца быць на адным палітычным полі разам з прэзідэнтам А.Лукашэнкам.

Зразумела таксама, што прэзідэнт Расіі не мог чакаць згоды Беларусі на шлях у палітычны і гістарычны нябыт. Таму прапанова дзеля прыгажосці, як торт ружачкамі, была аздоблена яшчэ двума варыянтамі «саюзацыі» – на ўзор Еўрасаюзу і адпаведна ратыфікаванай Саюзнай дамове. Аднак гэтакая «шырокая гамма» варыянтаў прыкрывала галоўнае ядро прапановы – паскораны пераход на карыстанне адзіным грашовым сродкам – расійскім рублём. На думку У.Пуціна, гэтае карыстанне ўжо магчымае з 1 студзеня 2004 году. Іншымі словамі, расійскі прэзідэнт мяркуе поўнасцю распаўсюдзіць валюту расійскай дзяржавы на тэрыторыю Беларусі. Пасля такой акцыі пра «адзіную валюту адзінай дзяржавы» (нейкую новую па форме, дзе будуць арол і «заяц», дзве мовы) не варта будзе і марыць. Як толькі беларусы абмяняюць 60 сваіх «зайцоў» на 1 двухгаловага арла, можна будзе дзесяцігоддзямі ствараць чыноўныя рабочыя групы для вывучэння палітычных аспектаў саюзу дзвюх дзяржаваў і аб'яднання іх на нейкіх кампрамісных

# Выбар робіцца сёння

**Вольга ІПАТАВА**

***старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў***

Кожны дзень па тэлебачанню ідзе заклік да насельніцтва ахвяроўваць грошы на будаўніцтва новай Нацыянальнай бібліятэкі. Толькі што паказалі сюжэт: кіраўнік краіны незадаволены тэмпамі дабрачыннасці. Даюць мала, пачатак будаўніцтва зацягваецца.

Каб кніга захоўвалася ў добрых умовах, патрэбныя светлыя памяшканні, грошы на догляд. У старой бібліятэцы цесна, выданням там ужо не зусім утульна. Міжволі думаецца – які клопат пра Пісьменства! У нас, як ні ў якой іншай краіне, велічна, з размахам, святкуюць нават адпаведны Дзень. І адразу ж узнікае другая думка – каб жа такі клопат быў пра жывых пісьменнікаў, тых, хто сёння піша кнігі!



Аднак жа рэаліі сённяшняга пісьменніцкага жыцця і «клопат» пра пісьменнікаў такія, што іхнюю прафесію самы час аб'яўляць асабліва небяспечнай. Мяркуйце самі – не так проста выкінуць з рабочага месца слесара, цесляра. Які-ніякі, але ёсць прафсаюз, ён можа заступіцца.

Аднак жа галоўных рэдактараў, зняцце якіх абумоўлівалася абавязковым узгадненнем з заснавальнікам іхніх выданняў, а гэта Саюз беларускіх пісьменнікаў, знялі гэтак жа проста, як здымаюць глякі з агароджы. А перад гэтым «абклалі» сам творчы Саюз: спачатку пазбавілі маёмасці, нажытай не адным пакаленнем пісьменнікаў, затым раптоўна, без аніякіх тлумачэнняў, пазбавілі і фінансавання, прычым з такім прыцэлам, каб нельга было звольніць апарат і, такім чынам, стварыць даўгі па заробку.

Разлік адзін – паставіць на калені, прымусіць творцу прынізліва прасіць грошы на пражыццё. Не зарабляць сваёй працай, а менавіта ***прасіць***. І ў рэшце рэшт, зрабіць выбар.

Нядаўна ў «Нашай ніве», якая ўсе гэтыя гады старанна прыніжала менавіта тых, хто актыўна працаваў на Адраджэнне, прачытала цікавы пасаж аднаго з маладых пісьменнікаў, які заявіў аб тым, што амаральна атрымліваць грошы ад дзяржавы і не падтрымліваць яе пазіцыю. Але дзяржаўная пазіцыя заключаецца ў захаванні інстытутаў незалежнасці, у зберажэнні нацыянальнай мовы і культуры. Што, калі такой пазіцыі ў дзяржавы няма? Што, калі яе, гэтую дзяржаўную пазіцыю, носіць нейкім шалёным ветрам, так што звычайны, не спакушаны ў палітычных вывертах абывацель паспявае толькі паварочваць галаву, каб хоць неяк прасачыць «наш шлях»?!

Па гэтай дзіўнай логіцы трэба падтрымліваць і закрыццё беларускіх школ, і адмену абавязковага экзамена па беларускай літаратуры, і многае іншае, што вядзе да фактычнага знішчэння асноўных інстытутаў незалежнай ідэі – паколькі ўсё гэта робяць дзяржаўныя мужы, а значыць, гэта робіць сама дзяржава. Міністр інфармацыі М.Падгайны падпісаў і загад аб стварэнні на базе нашых выданняў новага холдынга і, такім чынам, перапыненні дзейнасці выданняў без згоды заснавальніка – Саюза пісьменнікаў.

Аднак калектывы чатырох нашых часопісаў – «Нёмана», «Полымя», «Крыніцы», «Маладосці» – не згадзіліся з беззаконнем. Большасць супрацоўнікаў у знак пратэсту сышла разам з галоўнымі рэдактарамі. Пайшоў у іншае выданне і галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Алесь Пісьмянкоў.

Тым жа, хто застаўся, давялося прымаць новыя рэаліі – была ўведзеная цэнзура, настолькі жорсткая, што ў газеце беларускіх пісьменнікаў перасталі друкаваць абвесткі аб дзейнасці Саюза пісьменнікаў, які не даў згоду на стварэнне холдынга. Дайшло да дзікунства: не быў надрукаваны нават некралог аб смерці паэта-франтавіка Гаўрыіла Шутэнкі – некралог, які традыцыйна рабіў СБП...

Для таго каб дабіцца еднасці новастворанага холдынга і Саюза пісьменнікаў, былі ўжыты ўсе магчымыя сродкі – правакацыі, пагрозы, шантаж. Мае намеснікі занялі пазіцыю, якую ім пасля шчодра «аплацілі», калі яны сышлі на добрыя пасады, пакінуўшы мяне з даўгамі па заробку, якія штучна стварыла нам улада. І ў красавіку становішча творчага саюза сапраўды было адчайным: быў арыштаваны рахунак, немагчыма было збіраць унёскі – аснову жыццядзейнасці арганізацыі. Адзін за адным, не атрымаўшы за працу грошы, сыходзілі людзі, якія прарабілі ў СБП па трыццаць–сорак гадоў. Сыходзілі з душэўнымі траўмамі ад той непавагі, якую нам дэманстравалі чыноўнікі ўсіх масцей, не адказваючы на лісты – звароты ні сакратарыята, ні Рады, ні саміх супрацоўнікаў.

У дадатак да ўсяго быў створаны так званы «аргкамітэт», які ачоліў дырэктар інстытута літаратуры У.Гніламёдаў і які, фактычна, адобрыў уведзеную ў «ЛіМе» цэнзуру супраць кіраўніцтва Саюза.

Вострa, як ніколі, перад пісьменнікамі паўстала пытанне, якое заўсёды задавалі творцам у самыя напружаныя і нялёгкія часы існавання нацыі і, шырэй, цывілізацыі: «З кім вы, майстры культуры?»

Рада СБП 4 верасня асудзіла «аргкамітэт», трапна празваны «гэкачэпістамі». Асудзіла і не падтрымала ідэю, высунутую імі – правесці «свой» з'езд, на якім, як было заклікана ў «ЛіМе» , можна будзе «згуртаваць здаровыя сілы вакол прэзідэнта». Гэтую Раду «блакіравалі» як ніколі: на яе не з`явіліся У.Гніламёдаў, А.Бутэвіч, М.Мятліцкі, Р. Баравікова, А.Карлюкевіч, В.Шніп, некаторыя іншыя. Водараздзел праходзіць цяпер – той, які навідавоку – пакуль што па лініі далейшай «увагі» ўлады да пісьменнікаў. Але, канешне, ён значна глыбейшы.

Народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін заявіў у «ЛіМе», што існаваць без падтрымкі ўлады творчы Саюз не можа. Гэты факт – адказ у фінансавай падтрымцы (і сам «накат» на пісьменнікаў) прывёў у шок многіх з маіх калег, якія прывыклі лічыць, што Саюз – гэта свайго роду «кармушка», з якой сыплюцца прэміі, пуцёўкі, машыны, падарожжы і камандзіроўкі. Так яно і было ў недалёкім мінулым, калі пісьменніцкі білет называлі «дваранскай граматай». Дыскусія ў «ЛіМе» (арганізаваная як цкаванне кіраўніцтва СБП, яна, праўда, хутка захлынулася) паказала непрыхаваную настальгію некаторых пісьменнікаў па мінулым і спадзяванне на тое, што вось махне ўлада чароўнай палачкай – і ўсё адновіцца.

Але той час скончыўся назаўсёды. Усе саюзы жывуць у нялёгкіх умовах (наш, праўда, у найцяжэйшых, бо не паклапаціліся ў адпаведны час прыватызаваць свае дамы, як зрабілі тое іншыя творчыя саюзы). Усе штодзень рашаюць фінансавыя пытанні, шукаюць магчымасць дапамагчы творцам.

Выжыў і Саюз пісьменнікаў, выйшаў з невыносна прынізлівай сітуацыі, калі за даўгі па заробку апісвалі нашу маёмасць, ацэньвалі паламаную машыну і крэслы. Пастка, якую нам паставілі, не спрацавала: мне дапамагла выжыць і выцягнуць творчы Саюз з даўгоў па заробку праца тых, хто добра разумее, што нават у сённяшніх умовах Саюз пісьменнікаў застаецца прыцягальным для ўсіх, хто сочыць за беларускай літаратурай, чытае яе і любіць.

Барацьба Саюза пісьменнікаў за сваю свабоду, за незалежнасць ад улады працягваецца. Намі толькі што быў пададзены пратэст міністру інфармацыі супраць захопу нашых выданняў. Падрыхтаваныя матэрыялы да судовага іску супраць міністэрства. Спадзявацца на справядлівае рашэнне не даводзіцца – наш пратэст супраць самавольства Міністэрства фінансаў не даў выніку, нягледзячы на парушэнне ім Закону аб бюджэце. Аднак і адмоўнае рашэнне ўсё роўна дае падставу спадзявацца на тое, што некалі, пры сапраўды дэмакратычнай і нацыянальна арыентаванай уладзе, пісьменнікі нарэшце даб`юцца справядлівасці. Змагацца супраць беззаконня, гвалту і несправядлівасці – гэта і ёсць сёння выбар грамадзяніна і творцы, і яго, я спадзяюся, пацвердзяць на нашым з`ездзе самі пісьменнікі, якія, нягледзячы ні на што, робяць сваю асноўную справу – ствараюць новыя творы, выдаюць кнігі, шукаючы спонсараў ці збіраючы на іх уласныя сродкі.

Беларускія школьнікі ўжо жывуць з Рагнедай К. Тарасава, Усяславам Л. Дайнекі, Вітаўтам А. Дударава, Мсціслаўцам Э. Ялугіна. Жывуць з многімі героямі беларускай даўніны, вучацца ў іх. І гэты працэс паступова праяўляе глыбінную памяць беларуса - маладое пакаленне іншае, яно пачынае ўсведамляць само сябе ў плыні Часу. У плыні дэмакратыі і свабоды асобы, яе годнасці.

З такім усведамленнем народа стане немагчымым тое, што робіцца магчымым сёння.

# сілок для беларускай дзяржавы

умовах. Усё будзе шчырая фікцыя, бо з фінансавага сілка вырвацца не прасцей, чым было Напалеону ўцячы з вострава св. Алены. Ён, як вядома, там і памёр. Але ці варты двухгаловы арол таго, каб прыняць дзеля яго палітычную (дзяржаўную) смерць беларускага народа?

Неадольная перашкода на зваротным шляху ў «дасаюзны стан» цяпер у тым, што ў штучныя інтэграцыйныя абмеркаванні і адчуванні былі ўцягнутыя мільёны людзей, і зараз на іх вачах ні той, ні другі прэзідэнты не могуць проста адмовіцца ад Саюзнай дамовы. Таму ідзе гульня на выстаўленне такіх умоваў, якія немагчыма прыняць, і адначасна на стварэнне такой жорсткай сітуацыі, калі прыйдзецца прыняць нейкія нібыта скампраміcаваныя ўмовы. Расійскія СМІ ўжо развіваюць тэму падвышэння тарыфаў на газ і выціскання са свайго рынку галоўнай беларускай прадукцыі. Але наўрад ці «газавая пагроза» прымусіць беларусаў здацца на міласць расійскага капіталу.

Па правілах недарэчнай гульні ў стварэнне саюза «славянскіх народаў», Нацыянальны банк Беларусі на прапановы паскоранага ўвядзення адзінага (расійскага) рубля высунуў сваю канцэпцыю, згодна з якой пераход на расійскі рубель плануецца завяршыць да 1 студзеня 2005 году, але пры ўмове існавання эмісійных цэнтраў у Маскве і ў Мінску. Грошы яны будуць друкаваць не самастойна, а ў адпаведнасці з рашэннямі Міжбанкаўскай валютнай рады. Вымераць частку грошай, якую кожны банк мае права надрукаваць, Нацбанк Беларусі прапануе на падставе аб'ёмаў нацыянальнага прадукту. Масква катэгарычна адмаўляе ідэю двух эмісійных цэнтраў, лічачы, што павінен быць адзіны ў сталіцы Расійскай Федэрацыі. Але такі варыянт азначае аўтаматычную страту суверэнітэту Беларусі, бо ў дадатак да энергетычнай дадасца і поўная фінансавая залежнасць.

Відаць, на падставе гэтакіх непрыемных асэнсаванняў прэзідэнт А.Лукашэнка на дажынках у Полацку заявіў, што «Расія не жадае будаваць саюз з Беларуссю». На яго думку, праціўнікаў саюзнай дзяржавы «багата сярод членаў расійскага ўраду, а таксама сярод багатых людзей, якія жадаюць крыміналізаваць Беларусь і забраць яе». Прэзідэнт падкрэсліў, што ў пасланні кіраўніка расійскай дзяржавы наноў выкладаецца «свядома непрымальная для Беларусі ініцыятыва інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі». Прэзідэнт таксама адзначыў, што тая формула паслання, па якой расійскі бок прапануе інтэгравацца з Беларуссю па мадэлі Еўрасаюзу таксама непрымальная, паколькі гаворка ідзе аб абавязковым скасаванні Беларуска-Расійскага саюзнага дагавора, які дзейнічае сёння. «Калі кіраўніцтва Расіі хоча дэнансаваць дамову аб саюзе, то калі ласка але толькі ў аднабаковым парадку. Без нас. Беларусь у гэтым удзельнічаць не будзе», – сказаў А.Лукашэнка. Гэтак жа цвёрда прагучала меркаванне прэзідэнта пра магчымы саюз Беларусі і Расіі ў выступленні ў прамым эфіры на расійскім канале НТВ.



Відочна, што страсці напаляюцца, і Расіі не ўдасца нейкім простым шляхам пазбегнуць той палітычнай мадэлі саюзнай дзяржавы, якая выносіць беларускі бок на роўных пачатках да кіраўніцтва саюзнай дзяржавай. Сведчаннем незадаволення такім развіццём падзеяў служаць ужо арганізаваны дзеячамі прасійскага напрамку рух за збор подпісаў аб правядзенні рэферэндуму за «сапраўдную інтэграцыю», гэта значыць за далучэнне Беларусі да Расіі на маскоўскіх умовах. Аднак актывізацыя «пятай калоны» можа аказаць «саюзу» мядзведжую паслугу. Спасылкі на неабходнасць абразлівых формаў саюза як традыцыйных (для былой расійскай імперыі) не вытрымліваюць крытыкі.

**По матэрыялах прэсы**

# Кайф, з якім сябруе смерць

## Наркамафія хоча пасадзіць Беларусь на іглу

Аксана ЯНОЎСКАЯ

З пачатку гэтага году мінскай міліцыяй канфіскавана 7 кілаграмаў марыхуаны, амаль 5 кілаграмаў гераіну, 53 грамы гашышу, 656 грамаў опію, 12 грамаў метадону, 100 грамаў амфетамінаў, 452 грамы эфедрыну і 13 кілаграмаў наркатычнай сыравіны.

Сёлета ў параўнанні з мінулым годам аб'ём канфіскаванага вырас у 6 разоў. І ў гэтым сэнсе статыстыка на карысць міліцыянтаў, бо іх галоўная задача – перакрываць каналы збыту наркотыкаў. І калі канфіскаваны хоць адзін грам гераіну, гэта значыць: 10 чалавек не змогуць яго паспытаць упершыню.

Начальнік крымінальнай міліцыі краіны Барыс Тарлецкі і начальнік ГУУС Мінгарвыканкаму Аляксандр Рак дамагліся пашырэння штатаў супрацоўнікаў галоўнага ўпраўлення і раённых аддзелаў нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў. Наркамафія хоча пасадзіць маладых беларусаў на іглу. Сведчанне таму – няспыннае зніжэнне цэн на гераін. У 1999 годзе ён каштаваў 120 даляраў за грам, цяпер – 30. Нават элітны наркотык какаін і той патаннеў на 20-30 даляраў. Але нідзе ў свеце ніхто з наркагандляроў добраахвотна не адмовіцца ад свайго бізнесу, бо розьнічны кошт грама гераіну больш чым у 1500 разоў перавышае сабекошт.


Фота У. Шлапак

Па нацыянальнай прыкмеце сярод наркагандляроў лідзіруюць цыганы: да гэтай этнічнай групы належыць кожны дзесяты. З пачатку году іх затрымана амаль 30 асоб. Выхадцаў з Сярэдняй Азіі і Казахстану – столькі ж, з Грузіі – адзін, двое – з Чачні. Сярод наркагандляроў усё часцей з'яўляюцца беларусы.

Наркагандляроў можна падзяліць на дзве групы. Першая і даволі распаўсюджаная – самі наркаманы: яны займаюцца збытам, каб зарабіць сабе на дозу. Тут ёсць вялікая небяспека. Наркаман звычайна пачынае сябраваць з раўналеткам з забяспечанай сям'і і садзіць яго «на іглу». Новы «сябра» дае грошы на дзве дозы, бо наркаман са стажам ніколі не будзе знаёміць навічка з наркагандляром. Прынамсі, пакуль у таго ёсць грошы. Потым яны ўжо разам могуць знайсці новую ахвяру «сяброўства».

Другая, менш распаўсюджаная катэгорыя наркагандляроў-беларусаў – тыя, хто свядома на гэтым зарабляе грошы. Самі яны, як і цыганы, наркотыкі не ўжываюць, бо добра ведаюць, чым гэта скончыцца. А фінал вядомы: мала хто з наркаманаў дажывае да 30 год. Не можа не трывожыць той факт, што сярэдні ўзрост наркамана набліжаецца да 18 год.

Падлеткі спрабуюць наркотык таму, што ў іхнім узросце натуральна цікавіцца ўсім новым, нязведаным. У падлетка яшчэ няўстойлівая псіхіка, і ён лёгка паддаецца ўплыву, ён хоча быць да некага падобным. А тут яшчэ і рэклама тытуню і алкаголю. У такім інфармацыйным асяроддзі вельмі важна, як складаюцца адносіны паміж бацькамі і дзецьмі. Калі яны добрыя, даверлівыя і дзіцяці растлумачаць, у чым пагроза наркаманіі, дзіця ўсё зразумее. Калі ж бацькоў не цікавяць іх дзеці ці яны бачаць сваю ролю толькі ў тым, каб забяспечваць дзяцей грашыма, то дзеці абавязкова пойдуць шукаць нейкіх прыгодаў.

Заведама небяспечнымі месцамі, на думку намесніка начальніка крымінальнай міліцыі ГУУС Мінгарвыканкаму палкоўніка Рамуальда Андрыеўскага, з'яўляюцца раёны кампактнага пражывання цыганоў. З пачатку году ліквідавана амаль 30 «гандлёвых пунктаў» па продажы наркотыкаў. Звычайна гэта дамы цыганоў у прыватным сектары, яшчэ апошнім часам яны часта арандуюць кватэры на тыдзень, а то і на суткі. Увогуле, месца жыхарства для іх не важна пры цяперашніх сродках сувязі. Пейджар і мабільнік – галоўныя памагатыя ў наркагандляроў.

Што да начных клубаў і дыскатэк, то яны заўсёды былі ў полі зроку супрацоўнікаў міліцыі. А з пачатку гэтага году ў кожным раённым упраўленні ўнутраных справаў адзін афіцэр аддзелу нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў стала працуе па сваёй лініі толькі ў забаўляльных установах.

Наркаманы значна павялічваюць агульнакрымінальную злачыннасць. Іх «фірмовыя» злачынствы – рабункі, крадзяжы і разбоі, у тым ліку кватэрныя, махлярства з валютай. Хоць яны і хворыя людзі, але небяспека ад іх відавочная. На жаль, у нашай краіне пакуль няма эфектыўнай сістэмы рэабілітацыі наркаманаў. Міліцыя не павінна падмяняць сабой гэтую сістэму. Бо што атрымліваецца? Наркаман учыніў злачынства – яго затрымалі, асудзілі і адправілі ў папраўчую калонію. Гэта – барацьба з наступствамі.

Аднак праблема наркаманіі існуе ва ўсім свеце. У нашых бліжэйшых суседзяў, у Польшчы, дзейнічае «метадонавая праграма». Сутнасць яе ў тым, што наркаман бясплатна атрымлівае метадонавы кактэйль. Гэта падтрымлівае яго ў нармальным (для яго) фізічным і псіхічным стане. Не трэба думаць, дзе ўзяць грошы на дозу – ён не пойдзе красці. Там жа працуюць перасоўныя пункты абмену шпрыцаў, каб наркаманы не заразіліся СНІДам.

Там навучыліся лічыць грошы: што для дзяржавы танней – раздаць шпрыцы ці лячыць ВІЧ-інфекцыю. І галоўнае, людзі там больш неабыякавыя да чужога гора. Усё разам дазваляе зменшыць колькасць наркаманаў. У нас пакуль да гэтага не дайшло.

# Анатоль Грыцкевіч: Агрэсія –

Перамога пад Оршай у савецкія часы неяк згубілася сярод ілжывых баек пра гісторыю беларускай дзяржавы. Новы погляд на мінулае, народжаны хваляй адраджэння, дазволіў аб'ектыўна ўбачыць трагічныя і гераічныя падзеі беларускай даўніны.

Увагу гэтай падзеі ў нашай гістарыяграфіі аддаў і вядомы беларускі гісторык, загадчык кафедры гісторыі Беларусі Беларускага ўніверсітэта культуры Анатоль Грыцкевіч.

***– Якая асаблівасць гэтай слыннай гістарычнай падзеі?***

– У кожнага народа ёсць свае асноўныя даты гістарычнага і вайсковага значэння. Асобна стаяць слаўныя перамогі, якія адгукнуліся тады ў грамадстве і прайшлі праз вякі, не губляючы свайго значэння. Для нас, для беларусаў, менавіта бітва пад Оршай у 1514 г. з'яўляецца такой датай.

Яе асаблівасцямі можна назваць некалькі абставінаў. Па-першае, беларускім войскам камандаваў выдатны военачальнік... 

Па-першае, беларускім войскам камандаваў выдатны военачальнік, найвышэйшы гетман Вялікага княства Літоўскага, князь Канстанцін Астрожскі. Ён быў спрактыкаваны ў ваеннай справе і дзякуючы свайму вопыту, рашучасці, смеласці здолеў перамагчы праціўніка, маючы значна меншыя сілы, амаль утрая меншыя. Гэта адзначаюць усе храністы. Адносна невялікае беларускае войска, прыкладна 30 тысяч чалавек, перамагло маскоўскае войска ў 80 тысяч.

Больш падрабязна апісаў гэтую бітву Мацей Страйкоўскі – польскі паэт і гісторык. Ён некалькі дзесяткаў гадоў жыў у Беларусі, служыў у Віцебску, два гады быў у Слуцку пры двары князёў слуцкіх Алелькавічаў і карыстаўся іх бібліятэкай і рукапісамі. Таму ведаў, як тое было. Ён нават меў такія дакументы, якіх мы зараз не маем, бо яны страчаныя, і добра, па этапах, апісаў бітву.

***– Чым, на Вашу думку, сёння вызначаецца нашае стаўленне да гэтай даты?***

– Наша стаўленне вызначаецца зараз тым, што пра яе доўгі час бальшыня проста не ведала. Ну, хто гэта ў савецкія часы з гісторыкаў насмеліўся б напісаць пра перамогу беларусаў над расійскім войскам, калі ўвесь час казалі толькі пра «вечную дружбу» паміж двума брацкімі народамі? Аднак гісторыкі Расійскай імперыі пра гэта добра ведалі. Мяне вельмі здзівіла тое, што ў рускай Ваеннай энцыклапедыі 1914 году падрабязна і аб'ектыўна, суха, без эмоцыяў, усё распісана пра тыя падзеі, і нават пададзена карта – план бітвы.

***– Якое гістарычнае значэнне тады, у 16 стагоддзі, мела бітва пад Оршай?***

– Ну, па-першае, на некалькі дзесяцігоддзяў была спыненая агрэсія Маскоўскага княства. Па-другое, была ўсталяваная тая мяжа, якую мы маем і цяпер. Нейкім чынам яна канешне мянялася, але гэтыя змены не замацоўваліся. Сапраўдную тэрыторыю Беларусі, Падняпроўе – тагачасную Літву - абаранілі.

Упершыню, праз некалькі год пасля перамогі, з'явілася першая батальная карціна на сюжэт бітвы пад Оршай. Яна з пункту гледжання цяперашняга мастацтва са смелымі па задуме ўмоўнасцямі. Там князь Астрожскі з'яўляецца адначасова ў трох месцах. Такім чынам мастак паказвае тры этапы бітвы.

Упершыню на карціне адлюстраваны сцягі беларуска-літоўскай конніцы, дакладней, конніцы Вялікага княства. На дзідах вершнікі мелі невялічкія штандары, на якіх былі белыя і дзве чырвоныя стужкі, якія перасякаліся крыжам каля дрэўка. Гэта крыж св. Канстанціна, якім карысталіся рыцары. Пасля ў нас такі знак на сця-



# Страчаная школа

Сёлета на Беларусі пачаўся працэс закрыцця малакамплектных школ. Звязаны з эканамічнай сітуацыяй у краіне, якая, натуральна, справакавала адпаведныя дэмаграфічныя праблемы, ён адбіўся, найперш, на вясковых жыхарах. У гэтым годзе, прыкладам, у Вілейскім раёне былі зачыненыя Рускасельская пачатковая і Кавалеўская базавая школы, дзе навучаліся адпаведна 11 і 17 вучняў. У загадзе аб ліквідацыі гэтых школ з 1 верасня 2002 г. згадана малая колькасць вучняў.

### З гісторыі Рускасельскай школы

Школа заўсёды знаходзілася прыкладна ў адным месцы. Падчас вайны – у падполлі. Пасля вайны – у хаце Лізы, што на перакрыжаванні, затым у хаце Міркі, што стаіць каля школы. Недзе ў 1947-49 гг. прывезлі з Гір (або Мацавіч) адрыну раскулачанага Радзевіча і пабудавалі школу. Там былі вялікія цяжкія дзверы, збітыя з тоўстых дошак. Пасля да будынка далучылі другі канец школы. Затым дабудавалі доўгі калідор з чатырма класамі. Будынак стаў падобны да вялікай друкаванай літары «Г». Са сцен гэтай школы выйшла за гады існавання не адна тысяча адукаваных людзей. Шмат хто ведае пра яе гісторыю, слава пра яе доўгі час грымела не толькі на ўвесь раён, а і на вобласць. Былі часы, калі ў школе вучыліся больш за 250 вучняў. Яны займалі першыя месцы на алімпіядах, спартыўных спаборніцтвах, тэатральных пастаноўках, а па працоўнаму навучанню – трусагадоўлі – займалі першыя месцы нават у Беларусі. Анціпенка Н.Р. больш за 40 год быў нязменным дырэктарам, выдатнік народнай адукацыі БССР. Шыбека Я.І., філолаг, заслужаны настаўнік БССР. Сярод выпускнікоў школы – старшыні калгасаў, супрацоўнікі газет, работнікі міліцыі. Канапелька Мікалай Браніслававіч працуе ў Мінску, урач з доктарскай ступенню. Ёсць настаўнікі, галоўны энергетык адной з гаспадарак, супрацоўніца нямецка-беларускай школы-санаторыя «Надзея XXI ст.». Шмат хто з выпускнікоў Рускасельскай школы застаўся працаваць тут жа, на гэтай зямлі, і ўжо іх дзеці хадзілі ў гэтую школу.



### Сучасны стан

З закрыццём школы паўстала некалькі праблем. Як дабірацца дзецям у школу ў в.Нарач за 7 км і вяртацца дахаты? Куды працаўладкаваць настаўнікаў зачыненай школы? Напачатку прагучала абяцанне за сэканомленыя грошы набыць аўтобус. Але, ці то грошай аказалася малавата, ці эканомія пайшла глыбей, у выніку дзеці ездзяць у школу на маршрутным аўтобусе. Уявіце самі, наколькі гэта камфортна для 6-гадовых дзетак: бегчы на ранішні – у 7 гадзін аўтобус, каб паспець на ўрокі, што пачынаюцца ў 8.15. Пасля ўрокаў можна вярнуцца ў 14.30 дахаты. Так, напэўна, спецыяльна пад школьнікаў быў зроблены расклад аўтобусных рэйсаў. Але ж у новай школе добрая музычная школа, майстэрня саломапляцення, лялечны тэатр. Каб дзіця магло развіваць свае здольнасці ў адным з гэтых накірункаў, яму трэба заставацца пазней. А значыць, вяртацца дамоў толькі ў 19.00. Зразумела, на рэйсавым аўтобусе. Між тым, на харчаванне школьніка падрыхтоўчага класа выдзяляецца 404 рублі ў дзень, у групе падоўжанага дня – 896 руб. Каб забяспечыць паўнавартаснае харчаванне дзіцяці, вядома, трэба даплачваць. Ці ёсць сёння грошы на гэта ў большасці вясковых бацькоў пры іх заробках і, мякка кажучы, асаблівасцях ладу жыцця – пытанне рытарычнае.

Дзвюх настаўніц, якія цалкам забяспечвалі працэс навучання 11 дзетак, вялі школьную гаспадарку, нібыта ўладкавалі. Але з адной з іх пытанне не да канца вырашанае. Таму што лічыцца яна выхавацелем інтэрнату, які, магчыма (?!), будзе існаваць на момант транспартнай праблемы ці на выпадак дрэннага надвор'я.

### А што бацькі?

Пакуль, як часта ўжо ў нас бывае, бацькі выразна не акрэслілі сваёй пазіцыі ў гэтай сітуацыі. Праўда, у прыватных размовах яны не-не ды ўспомняць, як было добра іх дзецям. Не трэба было ўставаць на досвітку, далёка ехаць. А ўжо настаўнікі – лепшых на свеце няма, як добра яны да дзяцей адносіліся. Нібы і не было непаразуменняў, скаргаў і сварак.

### Замест эпілогу

Прызвычаіўшыся за апошнія гады, якія ўжо прынята называць эпохай глабалізацыі, да штодзённых паведамленняў пра авіякатастрофы, бай у шматлікіх кропках свету і гэтак далей, мы, з аднаго боку, шчыра спачуваем далёкім невядомым людзям, што цалкам натуральна і чалавечна. З іншага ж боку, за гэтымі глабальнымі жахамі пачынаем глядзець на некаторыя свае, так бы мовіць, унутраныя праблемы як на нешта неістотнае, малазначнае. Між тым, ці не з гэтых нашых абыякавых адносін да свайго жыцця, да лёсу дзяцей вырастаюць пасля пакаленні раўнадушных, бяздумных людзей, якія далей нясуць заразную бацылу адлучанасці ад усяго, што іх непасрэдна акружае?

Што думаеце вы, шаноўныя чытачы, на гэты конт? Можа, у вашай сітуацыі закрыццё школы зменшыла колькасць праблем і, наогул, паспрыяла лепшаму развіццю дзіцяці? Чакаем водгукаў.

# горасная пазнака гісторыі

гах паступова знік, а чырвоная стужка стала павялічвацца. Фактычна бел-чырвона-белы сцяг замацаваўся як наш вайсковы сцяг, вайсковая адзнака аж да паловы 19 ст.

***– Супраць Маскоўскага княства змагаліся не толькі беларусы. Мяшаны склад войска Вялікага княства часам дае падставу сумнявацца ў тым, што гадавіна бітвы - гэта свята менавіта беларускай вайсковай славы. Ці апраўдана гэта, на Ваш погляд?***

– Гэтыя сумненні ўзнікаюць перадусім у польскіх гісторыкаў. Яны лічаць, што там была вялікая колькасць польскіх вояроў. Але расійскі гісторык Матвей Любаўскі прыводзіць звесткі, аб тым, што на баку беларусаў было толькі чатыры тысячы польскіх жаўнераў. Астатнія засталіся ў Барысаве, дзе знаходзіўся вялікі князь і польскі кароль Жыгімонт Стары, для яго аховы. Яны не пайшлі на бітву. Таму гэтыя сумненні беспадстаўныя.

Калі пагледзець на карціну «Бітва пад Оршай», то гэта мора бела-чырвоных сцяжкоў, якімі карысталіся тады нашы рыцары. Палякі мелі іншыя сцяжкі. Некаторая частка польскай кавалерыі, канечне, удзельнічала, але большасць было беларусаў.

Што тычыцца літоўцаў, то я спецыяльна высвятляў гэтае пытанне. Яны трымалі ў той час мяжу з Тэўтонскім ордэнам. Фактычна гэтая бітва сарвала вялікі саюз Германскай імперыі, Тэўтонскага ордэну, крымскіх татараў і Маскоўскага княства. Пасля яе германскі імператар адмовіўся ад саюзу з Масквой і, наадварот, уступіў у саюз з Вялікім князем Літоўскім і Польскім каралём.

***– Ці згодныя Вы з тым, што ў сучасным беларускім грамадстве няма падрыхтаванай глебы для ўспрыняцця гэтага свята, як сапраўднага Дня вайсковай славы?***

– Гэта зразумела, бо для нашага цяперашняга грамадства, якое было ўзгадаванае за дзесяцігоддзі савецкай гісторыі, галоўным ворагам, асабліва пасля Другой сусветнай вайны, быў германскі фашызм, а не Маскоўская дзяржава. На ўсходзе ворагаў быць не магло па вызначэнню. Зразумела, што ў падручніках для школы і студэнтаў пра гэта не пісалася.

Але калі мы кажам пра грамадства ў цэлым, то я б не сказаў, што яно не падрыхтаванае. Усё ж ужо гадоў дванаццаць, а то і болей, пра гэта шмат пішуць. Я лічу, што мы лепш успрынялі б гэтае свята, калі б бітва і тыя знешнепалітычныя абставіны, ў якіх яна адбывалася, падаваліся так, як гэта насамрэч было. Людзі павінны ведаць і драмы роднай даўніны, яе трагічныя дні, і вайсковыя справы сваіх продкаў. Без гэтага немагчымае сапраўднае разуменне даўніны. Наколькі будзем ведаць, нагэтульki будзем разумныя. Тут не можа быць крыўды ў рускага народа. Простыя людзі заўжды расплочваюцца жыццямі за агрэсіўнасць сваіх уладароў. Агрэсія – самая горасная пазнака жыцця народаў.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

## Меркаванне пацыфіста

Не ўсе беларускія гісторыкі трымаюцца такога погляду на Аршанскую бітву, які выклаў шаноўны спадар Анатоль Грыцкевіч. Пры ўсім ваенным таленце гетмана Канстанціна Астрожскага і жаданні войска Вялікага Княства ўзяць перамогу, хіба можа галоўную ролю адыграла адсутнасць у маскоўскім войску адзінага камандавання. Два ваяводы варагавалі паміж сабой і таму абыякава назіралі, як харугвы Астрожскага б"юць палкі суседа. Абодва, дарэчы, патрапілі ў палон і, відаць, не аднойчы праклінаці свае глупства, зробленае на полі бітвы. Добра апісаў гэты складальнік перамогі нябожчык Міхась Ткачоў. Хто не чытаў, можа звярнуцца да яго артыкула ў Беларускай гістарычнай энцыклапедыі. Паколькі нацыянальны склад войска ВКЛ таго часу немагчыма вывучыць, бо першы попіс войска быў датаваны 1529 годам, то цяжка казаць, колькі людзей прыйшло з Беларусі, колькі з Украіны, колькі з Літвы. У пэўным сэнсе супраць маскоўскага войска стаяла, калі браць па землях, прыкладна такая ж рыцарская сіла, якая выходзіла на Грунвальдскую бітву. Таму лічыць перамогу ў гэтай знакамітай бітве заслугай толькі беларускіх ваяроў будзе гэтак жа недакладна, як недакладна перамогу на Барадзіно называюць славай рускай зброі, забываючыся пра ўдзел у бітве болей за 40 тысячаў беларускіх салдат, якія былі ў палках, што стаялі супраць войска Напалеона.

Ёсць яшчэ адзін момант. Другая сусветная вайна, лакальныя войны, Афганская вайна, сам чын вядзення вайны, яе новыя тэхналогіі прымушаюць па-іншаму асэнсоўваць вайсковую славу. Што можна адчуваць у такі Дзень? Што павінны адчуваць, прыкладам, татары калі абвесцяць днём вайсковай славы бітву пад Навагрудкам ці пад Лідай, калі яны гналі з Беларусі па 40 тысяч палону? Ёсць над чым задумацца. Наогул, асэнсаванні паразаў больш плённыя для розуму, чым гонар з прычыны перамогі, якая мела месца 500 год таму і да якой мы, сённяшнія, недатычныя нават у сёмым калене.

# Паркінг для Нямігі

## *Усяслаў Чарадзей прайграў бітву Мінскаму гарвыканкаму*

Археолагі вызначылі, што ў частцы горада, дзе праводзяцца даследаванні, раней знаходзіліся гандлёвыя рады. Па цяперашніх выніках, калі выкапаны толькі адзін участак у раскопе, сабрана шмат прадметаў матэрыяльнай культуры (фрагментаў і цэлых), усяго каля чатырох тысяч адзінак. Гэта разнастайны посуд: гліняны, кухонны, сталовы, ёмістасці для захоўвання вадкасцяў, а таксама пячная кафля, керамічная дахоўка з канца 16 – да 19 стагоддзя. Зараз ужо можна з упэўненасцю казаць, што на гэтым участку самыя раннія матэрыялы датуюцца прыкладна другой паловай 16 ст. – першай паловай 17 ст. Першапачаткова гэтае месца было забудавана драўлянай забудовай, а потым, напрыканцы 18 ст., тут з'явіліся каменныя будынкі, і даволі хутка ўздоўж рэчышча Нямігі склаўся гарадскі раён.

Гарадскія ўлады тлумачаць, што патрэба ў гэтай пабудове вялізная. Як кажуць спецыялісты Мінгарвыканкаму, будаўніцтва паркінга на 600 аўтамабіляў не задаволіць патрэбаў у аўтастаянцы. Нібыта на Нямізе патрэбная стаянка на 1400 машын. Маўляў, жыццё ідзе, аўтамабіляў усё больш і больш, а ставіць іх няма дзе.

Зараз ужо мала хто ўзгадвае, што за ўсім «прагрэсам» і «разумным спалучэннем» паркінга з месцам гістарычнай бітвы 1067 году крыецца паступовае вынішчэнне гістарычнай часткі Мінску і здзек з мінуўшчыны. Самая старажытная частка гораду стала месцам самага вялікага знішчэння гістарычных помнікаў, руйнавання старых будынкаў у новай гісторыі Беларусі. Шматпакутная Няміга паэтапна развітвалася са сваім гістарычнам аблічам, а замест яго будаваліся бетонныя гмахі. Чарговы з іх рыхтуецца да ўзвядзення. Усё нібыта згодна з законам. Дазвол гарадскіх уладаў на будаўніцтва ёсць, распрацавана праектная дакументацыя. Гэта ўзгоднена з дэпартаментам па Ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі. Вядуцца раскопкі...

Кіруе археалагічнай экспедыцыяй кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела сярэдневечнай археалогіі Інстытута гісторыі НАН Сяргей Тарасаў. Але ў складзе экспедыцыі працуюць і іншыя археолагі як з Інстытута гісторыі АН РБ, так і з універсітэтаў ды іншых устаноў.

**Пятро РУСАЎ,**

***намеснік начальніка археалагічнай экспедыцыі на Нямізе, супрацоўнік Інстытута гісторыі АН РБ:***

– Калі адбываецца нейкая забудова ў гістарычнай зоне горада, дзе знаходзіцца культурны пласт, раскопкі неабходныя. Не сакрэт, што пры правядзенні такіх даследаванняў культурны слой вынішчаецца, і таму гэта месца само па сабе перастае быць культурным аб'ектам. Зараз раскопкі праводзяцца толькі ў пляме забудовы, менавіта на той пляцоўцы, дзе будзе стаяць паркінг. Знойдзены матэрыял у асноўным датуецца пачынаючы ад 18 стагоддзя, аднак сустракаюцца і рэчы больш старажытныя. Гэта манеты – барацінкі, сольды і г. д. Таксама раскапана некалькі пабудоваў 18–19 стагоддзяў.

Знойдзена таксама шмат жалезных рэчаў, фрагменты замкоў, ключы, нажы, манеты – 17–19 стагоддзяў Разнастайны шкляны посуд, бутэлкі, аптэчны посуд, шмат прадметаў матэрыяльнай культуры. Усё тое, што мы знаходзім, мы абгрунтавана абагульняем. Я планую грунтоўна даследаваць драўляныя знаходкі. Знаходак увогуле вельмі шмат. Працуюць на раскопках збольшага студэнты. Для іх гэта яшчэ і дадатковая магчымасць зарабіць.



Фота У. Шлапак

Мінск, ... Няміга. Выгляд месца дзе [illegible] будзе паркінг на 400 машын

Тое, што зараз у раскопе відаць – гэта фрагменты тых будынкаў, што разбурылі на Нямізе ў 60-я гады мінулага стагоддзя. У прынцыпе можна было б зрабіць іх рэстаўрацыю, аднавіць іх, пакрыць старажытнай дахоўкай, зрабіць там маленькія музейчыкі. А паркінг можна было б паставіць бліжэй да Тэатра музычнай камедыі. Там шмат свабоднага месца і старажытнага пласта няма. Але нас ніхто не слухае. Некаму патрэбна мець яго тут.

Я лічу, што на гэтым месцы трэба паставіць помнік Бітве на рацэ Нямізе ў 1067 годзе. Гэта самае лепшае месца для помніка слыннай падзеі. А тое, што тут цяпер пабудуюць, я называю «аўтамабільная стайня». Ад старога Мінску тут нічога не застанецца, бо ўсё, што тут набудавалі, абсалютна не падыходзіць да гэтай часткі горада. Гэта жах, нідзе ў свеце так не робіцца, за гэта караюць.

**Валянцін СОБАЛЬ,**

***намеснік начальніка археалагічнай экспедыцыі, загадчык навукова-экспазіцыйнага аддзелу Музея народнай архітэктуры і побыту.***

В.Собаль у свой час шмат займаўся вывучэннем культурнага пласта гістарычнай зоны Мінска, распрацоўваў ахоўную зону яго гістарычнай цэнтра.

***– Ці можна абмяркоўваць даследаванні на гэтым месцы, выдзяляючы яго з астатняй Нямігі, і з гістарычнай часткі ўсяго горада?***

– У ідэале безумоўна культурны пласт трэба захоўваць. Але ў такіх буйных гарадах, як Мінск, тым больш, што гэта сталіца дзяржавы, спыніць жыццё і закансерваваць гістарычную зону горада немагчыма. Сваё аблічча горад з цягам часу павінен мяняць, адпаведна кожнаму гістарычнаму этапу. Горад мусіць адпавядаць патрабаванням часу.

Раскопкі тут адбываюцца, па-сутнасці, з-за таго, што гарадскія ўлады дазволілі будаўніцтва, але пры гэтым былі пастаўленыя ўмовы: калі гістарычны пласт горада будзе падвяргацца знішчэнню падчас земляных і будаўнічых работ, то за кошт забудоўшчыка, (той, хто будзе будаваць паркінг), за яго грошы неабходна папярэдне вывучыць гэты ўчастак. Гэта нармальная практыка, якая існуе ва ўсіх краінах.

Праблема зараз у тым, каб мы паспелі ўсе зрабіць. Гаворка пра даследаванні, перамовы аб заключэнні дамовы вяліся з заказчыкам ТДА «Паркінг» з лютага гэтага году. Мы прасілі, каб нам дазволілі раскопкі пачынаючы з траўня, і тады ў нас было б дзесьці 5-6 месяцаў добрага надвор'я, і мы паспелі б вывучыць увесь гэты участак. Але цяпер, калі мы пачалі раскопкі толькі 12 жніўня, у нас часу вельмі мала і наўрад ці паспеем. Ужо ў лістападзе напэўна пачнуцца маразы, пойдзе снег, рукамі перабіраць зямлю – фізічна немагчыма, і мы вымушаныя будзем спыніць раскопкі, калі толькі не зробяць навес над раскопам, правядуць асвятленне. У іншым выпадку мы будзем настойваць, каб на той частцы, дзе даследванні праведзеныя не да канца, будоўля не вялася, каб мы маглі скончыць там раскопкі наступным годам.

***– Што адкапана на гэты момант?***

– Адкапалі мы месца, дзе стаяла ювелірная майстэрня. Знойдзена шмат тыгляў, у якіх ювеліры плавілі розныя каляровыя металы. Знойдзены таксама двухстворкавыя ліцейныя формачкі, у якія залівалі гэтыя металы і фармавалі завушніцы, пярсцёнкі. Гэта напэўна канец 18 – першая палова 19 ст.

Гэты разнастайны матэрыял значна дапоўніць нашае ўяўленне аб матэрыяльнай культуры сярэднявечнага горада. Зараз знаходкі апрацоўваюцца, мыюцца, шыфруюцца, уладкоўваюцца і рыхтуюцца да зімовай апрацоўкі, калі археолагі будуць больш дэталёва вывучаць калекцыю. На падставе гэтага з'явяцца навуковыя публікацыі. Нешта са знаходак будзе адрэстаўравана, пачышчана і падрыхтавана для музейнай экспазіцыі, штосьці з керамічных твораў падчас апрацоўкі збяруць з фрагментаў, і можна будзе аднавіць цэлыя формы.

Я, напрыклад, буду займацца апрацоўкай бытавой і будаўнічай керамікі, кафлі, іншыя археолагі – драўлянымі знаходкамі, хтосьці – жалезнымі, шклянымі, скуранымі.

***– Ці ёсць нейкі кампраміс у развіцці горада і захаванні помнікаў гісторыі і культуры?***

– Кампраміс якраз у тым і ёсць, што той, хто забудоўвае, выдае сродкі на археалагічнае вывучэнне. Хоць погляды існуюць розныя. Я ведаю, што ёсць шмат людзей, якія ўпарта стаяць на тым, каб тут не было паркінга. Але жыццё спыніць немагчыма, і горад будзе развівацца па сваіх законах, хоць яны не заўжды правільныя.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**



Раскоп на месцы будоўлі шматяруснага паркінга



Фота У. Шлапак

Археолагі разглядаюць здабыткі раскопак

# Пад акупацыяй

Ніл ГІЛЕВІЧ



***Урывак з аўтабіяграфічнай кнігі-споведзі «Між роспаччу і надзеяй. Абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары».***

***Гэту кнігу я пачаў пісаць у чэрвені 1998 года, у бальніцы, ачуньваючы ад інфаркту. Напісаўшы досыць ладны каавлак (старонак дзвесце машынапісу), запыніўся ў працы, думаў – на нядоўга, дзеля перадыху, аказалася – на добрыя тры гады. Каб пісаць далей – спатрэбілася трохі падвучыць «свой час, свой век, сваю эпоху», чым гэтыя гады і займаўся, з адхіленнямі на іншыя надзённыя творчыя справы. З лета мінулага года зноў засеў за рукапіс. Калі закончу – адзін Бог ведае.***
***Урывак з кнігі прапаную чытачам упершыню.***

***Аўтар***

Беларусы таго пакалення, да якога належу я, пераказваючы або пішучы сваю аўтабіяграфію, звычайна зазначалі: «вучобу ў школе на тры гады перапыніла вайна», маючы на ўвазе, што тры гады цягнулася нямецка-фашысцкая акупацыя Беларусі. Гэта не зусім так. Ці, дакладней, гэта датычыць далёка не ўсіх маіх равеснікаў, якія свае дзіцячыя і падлеткавыя гады правялі ў акупаванай немцамі Беларусі. Цалкам менавіта такі, трохгадовы перапынак у вучобе выпаў на долю школьнікаў усходніх раёнаў Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Гомельшчыны – тэрыторыя, якая знаходзілася ў распараджэнні вайсковых нямецкіх улад і не адносілася да гэтак званай «Беларутэніі», што была ў веданні гітлераўскага гебітс-камісарыяту на чале з гаўляйтэрам. З другога боку, школьнікі крайніх заходніх тэрыторый Беларусі, уключаных у склад Рэйха (Беласточчына і заходняя Гарадзеншчына), а таксама школьнікі гарадоў «Беларутэніі», дзе аж да лета 1944-га панавала нямецкая ўлада, хадзілі ў школу, вучыліся пад акупацыяй усе тры гады. У выніку яны, не страціўшы ў школьнай вучобе ні году, ні паўгоду, паступалі пасля вайны ў інстытуты і ў Беларускі дзяржаўны універсітэт на тры гады маладзейшымі за сваіх усходнебеларускіх равеснікаў. (Калі я прыйшоў на першы курс філфака БДУ, мой аднагодак са Слоніма Алег Лойка ўжо быў на чацвёртым курсе). Што ж датычыць школьнікаў вясковых школ цэнтральнай Беларусі («Беларутэніі»), то тут – як каму пашанцавала: хто вучыўся пад акупацыяй год, хто – год з гакам, а хто і ўсе два. Але тры гады не вучыўся ніхто. Восенню 1942-га ўжо набірала сілу партызаншчына, і настаўнікам, якія лічыліся службоўцамі акупацыйнай улады, працаваць стала немагчыма: народныя мсціўцы прыраўнівалі іх да здраднікаў.

Я пад акупацыяй вучыўся ў школе фактычна толькі адзін год – закончыў чацвёрты клас у сваёй Слабадзе. У наступны ж пяты (ужо ў суседняе мястэчка Гайна) пахадзіў усяго тыдні тры, не болей – і школа была зачынена. У яе вялікім новым будынку (тыповым, пастаўленым за год да вайны) размясціўся паліцэйскі гарнізон. Але зусім не надоўга. На пачатку зімы, ад страху быць разгромленымі, яго ваякі перабраліся ў суседні гарнізон у Лагазе, а школу – новы, цудоўны будынак – партызаны спалілі. «Каб не было куды вярнуцца «бобікам» (так пагардліва называлі тых, хто пайшоў у паліцыю). Пазней, пасля вайны, гэтае бяздумнае, нічым не апраўданае спажаранне школы будзе дапісавана да зруйнаванняў, што ўчынілі на Беларусі нямецка-фашысцкія акупанты, – як і тысячы іншых спаленых ці разбураных «лясными салдатамі» школ і розных казённых будынкаў, узарваных былых панскіх палацаў, касцёлаў і цэркваў. Усё прыпісалі акупантам – усе свае дурныя, бязглуздыя спажаранні і разбурэнні. Гэта не значыць, што не палілі і не руйнавалі нямецкія фашысты – і палілі, і руйнавалі страшэнна. Але гэта значыць, што ўся праўда аб тым, што было, што чынілася на Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны, яшчэ не напісана. Яшчэ так і не сказана на ўвесь голас, чаму і адны і другія, і фашысты і антыфашысты – былі такія бязлітасныя да беларусаў і да багацяў-скарбаў нашай матэрыяльнай культуры, да рукатворных помнікаў нацыянальнага генія народа. І не толькі, вядома ж, да рукатворных.


Фота У. Шлапак

Год вучобы ў школе пад немцамі адзначыўся ў маёй свядомасці двума новымі момантамі, якія мелі, як я цяпер разумею, немалаважныя для мяне наступствы. Па-першае, усе ранейшыя, савецкія школьныя чытанкі і хрэстаматыі былі са школьнага ўжытку зняты, апынуліся пад забаронай (фактычна былі сабраны, рэквізаваны і знішчаны), і таму ва ўсіх класах нашай (цяпер ужо не сямігадовай, а пачатковай) школы мову і літаратуру дзеці вывучалі па выданым у Менску з восені 1941-га году часопісе «Беларуская школа», у якім усе матэрыялы (і метадычныя, і літаратурна-мастацкія) былі надрукаваны гэтак званай «тарашкевіцай». На «тарашкевіцы», дарэчы, друкаваліся і беларускія газеты, якія да снежня 1942-га даходзілі да нас, у Слабаду, і якія я з вялікай цікавасцю чытаў («Беларуская газэта», «Менская газэта»). Гэты адметны ад ранейшага правапіс роднай мовы, павінен прызнацца, прыйшоўся мне да душы, асабліва абазначэннем мяккасці зычных З, С, Л, Н, Ц на пісьме з дапамогай мяккага знаку (зьбіў, сьнег, гальлё, сёньня, жыцьцё). Нейкае падсвядомае нутранае чуццё як бы гаварыла мне, што гэтак пісаць лепш, што гэтак і трэба. За год вучобы я так прызвычаіўся да «тарашкевіцы» (гэтага тэрміна, вядома ж, я тады не чуў), што нейкі час яшчэ і пасля вайны ў маіх пісаннях праскокваў, як партызан-дыверсант, лішні мяккі знак і «пускаў пад адхон» жаданую, запланаваную ў амбітнай душы «пяцёрку».

Другое, што было пэўным шчаслівым адкрыццём для мяне ў тагачасны вучобе, – гэта знаёмства з беларускім народным земляробчым календаром, з апісаннем нашых даўніх народных святкаванняў і звычаяў, абрадаў і гульняў, з узорамі абрадава-каляндарнай і сямейнай паэзіі, з гістарычнымі паданнямі і легендамі беларускага народа. Рэч у тым, што такога матэрыялу было багата ў названым часопісе, ды і газеты яго друкавалі, і што на ўсім гэтым акцэнтавалася на ўроках увага, чаго абсалютна, зусімніяк не рабілася ў школе да вайны. У савецкай школе гэтым займацца было нельга, ва ўсякім разе – у беларускай савецкай, бо на гэтае багацце народнай духоўнасці, народнай паэзіі вучылі глядзець як на нічога не вартую забабонную старыну, не толькі непатрэбную, але і шкодную, звязаную з беларускім буржуазным нацыяналізмам, і таму фактычна забароненую. Народныя лірычныя (пазаабрадавыя) песні спяваць і казкі расказваць (асабліва антыпанскія і антыцаркоўныя) – не забаранялася, яны ўваходзілі і ў вучэбныя праграмы, але каб старыя святы святкаваць і язычніцкія ці хрысціянскія абрады выконваць – крый Бог! Толькі хіба ўпотай, падпольна. А тут – пра ўсё гэта гаварылася не толькі адкрыта, але і з ухвалою, з заклікам адраджаць у жыцці свае старажытныя святы, звычаі, абрады. І трэба сказаць, што часовае адраджэнне пэўных, ужо прызабытых атрыбутаў нацыянальнага беларускага быту, святочных абрадавых дзействаў і рытуалаў мела, прынамсі ў нашым наваколлі, месца, заклік да яго быў пачуты і прыняты вясковай моладдзю з задавальненнем. Помню, як мне, страшэнна заінтрыгаванаму чуткамі, хацелася пранікнуць у перадкалядны вечар у хату да Маславых, дзе – усе ў вёсцы гэта ведалі – дзяўчаты «пякуць ката». І Каляды першай ваеннай зімы, і затым Вялікдзень, і Сёмуха, і Купалле святкаваліся па ўсіх канонах і правілах, як і ў былыя дакастрычніцкія часы. Усё гэта ўваскрашалася ў памяці і адраджалася ў вясковым побыце імгненна само сабой, без ніякіх распараджэнняў і загадаў. Зрэшты, садзейнічалі гэтаму і самі варункі акупацыйнага рэжыму – жыццё без кніг, без кіно, без радыё, а пачынаючы з восені сорак другога – і без школы. Разам з жорнамі, з самаробнай гарэлкай (самагонкай) і іншымі прадметамі старога быту ў жыццё вярталіся і старыя абрады, і даўнейшыя, амаль зусім забытыя, гульні-забавы, на вечаровых зборышчах моладзі не абыходзілася без розных прымхаў, варажбы і іншых забабонаў.

Быў у той першы год акупацыі і яшчэ адзін нечаканы прарыў маёй «зялёнай» свядомасці ў ранейі наглуха ад мяне схаванае і невядомае – у тую таямніцу, на якую было накладзена самае страшнае з усіх дзяржаўных табу савецкай эпохі: у праўду пра Сталіна, пра яго акружэнне і пра ўсталяваны пры ім у краіне палітычны рэжым. Забяспечылі мне гэты «прарыў» галоўным чынам мінскія беларускія газеты, якія дастаўляліся ў вёску бургамістру нашай Слабодскай воласці Івану Бурбоўскаму і якія я, дзесяці- адзінаццацігадовы падлетак, згаладнелы па друкаваным слове, прагна чытаў. Рэч у тым, што гэты самы Бурбоўскі даводзіўся майму бацьку дваюрадным братам, быў мой стрыечны дазядзька (досыць блізкая радня). Я сябраваў з яго дзецьмі і пад выглядам «пагуляць» прыходзіў да іх у хату «пачытаць». Газеты, падшытыя ў стос, ляжалі на шырокай драўлянай канапе, і калі нават гаспадар быў дома – гартаць іх мне дзядзька Іван не забараняў. Чаго толькі на палосах тых «газэт» я не вычытаў – і пра наша жыццё пры «саветах», пад уладай «жыдоў і камуністаў», і пра зверствы Сталіна і яго апрычнікаў, і пра тое, як сілай заганялі сялян у «калгасны рай», і пра гвалт над беларускай мовай і культурай, і, вядома ж, пра блізкую перамогу харобрых войск фюрэра над рэшткамі разбітай Чырвонай Арміі. Вельмі ўражвалі карыкатурныя выявы Сталіна і іншых кіраўнікоў савецкай краіны, часам страшэнна пачварныя і таму смешныя. Пасля ўсяго таго, што я чуў і чытаў пра Сталіна да вайны, – гэта здавалася нечым неверагодным і страшным, амаль нерэальным, і я падоўгу глядзеў на карыкатуры, як агаломшаны. Разумеў, нават і ў тым узросце, што гэта робіцца рукамі ворагаў нашай Радзімы, і аднак жа, аднак жа... штосьці ў свядомасць западала нейкай неразгаданай да часу загадкай.

# Аповесць пра Трышчана



***«Аповесць пра Трышчана» – старабеларуская версія сярэднявечнай легенды пра Трышчана (Трыстана) і Іжоту (Ізольду). Беларуская апрацоўка (датуецца 80-мі гадамі XVI ст.) – апошняя сярод мноства еўрапейскіх; крыніцаю для яе паслужыла сербская версія (не захавалася), а для тае – італьянская. Пераклад са старабеларускай на сучасную беларускую мову быў выкананы на пачатку 90-х гадоў; урывак з яго друкаваўся ў «Спадчыне», 1991, № 5.***

**Мікола Раманоўскі**

Па нядоўгім часе кароль[1] паехаў у ловы з добраю дружынай і ўзяў з сабою Трышчана з Гаварнарам[2], каб Трышчан вучыўся паляўнічаму майстэрству. Едучы дуброваю, яны напаткалі дваіх рыцараў у даспехах і ў поўнай зброі. Тыя запыталі: «Хто тут кароль?» Паляўнічыя адказалі: «Вунё кароль з каралевічам». Гаварнар перабіў: «Што ты кажаш? Няма тут каралевіча, дома застаўся». Рыцары ж падступіліся і сказалі каралю: «Ты нам ніякага зла не чыніў, але сёй-той з твайго двара маніцца загубіць нас, дык цяпер маем пазбыцца яго, калі здолеем», і выцяглі мечы, і пакуль хто паспеў адбараніць, ранілі караля смяротнаю ранай у галаў, але тут іх саміх адразу пазабівалі на смерць.

Яны абодва належалі да роду князя з Нароту[3], найбольшага ў Карнавалі[4]. Ім адна варажбітка сказала была: «Вы маеце загінуць ад двара караля Мэліядуша». А намовіў іх на гэтае забойства кароль Марка карнавальскі, баючыся, каб Трышчан, увабраўшыся ў леты, не выгнаў яго з панства, як казала тая варажбітка. Таму пасля, калі Трышчан увабраўся ў леты, ён прыйшоў з дружынаю, забіў князя з Нароту ўласнаю рукою і зруйнаваў іхны замак, так што камень на камені не застаўся.

Калі ж баяры агледзеліся, што кароль нежывы, яны не ведалі, што чыніць, і гаварылі паміж сабою: «Дзе чувана, каб каго свае людзі так блага ўсцераглі, як мы свайго пана?!» І Трышчан таксама горка плакаў з усімі сваімі людзьмі, і яны прыладзілі на двух конях насілы і панеслі караля. Калі ж падыйшлі пад замак, тамтэйшыя людзі ўчынілі вялікі плач і жалобу і пахавалі яго пачэсна, як належыць такому пану.

Кароль Марка ўсё гэта бачыў і пачаў шмат разважаць пра гэта. Тым часам прыйшоў да яго адзін хлопец, які больш за ўсіх, апрача Мэрліна, знаўся на тым, што мае быць, і якога кароль дзеля таго любіў больш за іншых, і прыйшоўшы, ён сказаў: «Думай хутчэй, бо твой пляменнік Трышчан мае цябе моцна засмуціць». Кароль запытаў: «Як гэта можа быць, каб Трышчан дасягнуў такога рыцэрства?» Хлопец адказаў: «Мае так стацца, што на ўсім свеце не будзе рыцара над яго». І кароль змоўк.

Гаварнар, які быў вельмі мудры, бачыў, што мачыха і далей ненавідзіць Трышчана, квапячыся на каралеўства. Таму, адвёўшы Трышчана ў зацішнае месца, ён сказаў яму: «Мой добры прыяцелю і сыну, твая мачыха цябе вельмі ненавідзіць і хоча цябе са свету зжыць. Паедзьма ўпотай у Францыю да караля Перамонта[5]: там навучышся мужнасці і станеш чалавекам славутым, а як дазнаюцца твае добраці і прыйдзеш на рыцэрства, вернешся на бацькаўшчыну ў Эліянос, і тады ніхто табе слова перак не скажа». Трышчан яму адказаў: «Куды загадаеш, настаўніча, туды і паеду, бо не знаходжу ні ў кім большае прыязні, як у табе». Гаварнар сказаў: «Зберымося і паедзьма заўтра на світанні».

Гэтак ён умовіўся з Трышчанам, сабралі што трэба, узялі з сабою досыць золата і срэбра і ў той жа дзень выправіліся ў Францыю да караля Перамонта. Гаварнар наказаў Трышчану не адкрываць, хто ён і адкуль. Трышчан адказаў: «Рад цябе слухацца». А як прыехалі да караля Перамонта, кароль прыняў Трышчана ласкава і казаў даць яму добрую гасподу.

Трышчан рос і лепшаў, і праз колькі дзён гуляў у шахматы і ў шашкі лепш за ўсіх, ажно ўсе дзіву даваліся, і любой з ягоных добрацяў не было раўні, і ніхто не ўмеў сядзець на кані спрытней за яго. У дванаццаць гадоў ён быў повен ува ўсім добраці і мудрасці. Пані і панны, і ўсе, хто бачыў яго, дзіву даваліся, і кожная паня і паненка была б рада, каб Трышчан яе пакахаў. А Трышчан служыў каралю Перамонту шляхотна і пачэсна, а кароль іншых панічоў на сваім двары проці яго ні ўва што не ставіў. Ніхто, аднак, не ведаў, хто ён і адкуль.

Той кароль меў дачку[6], надта прыгожую панну. Яна пакахала Трышчана і казала: «Такога цуднага юнака, як Трышчан, чалавечае вока не бачыла». Калі яна дзе яго бачыла, вочы яе і думкі не былі больш нідзе, як толькі пры ім. Яна кахала яго, як сама сябе, і не магла даўмецца, як бы дамагчыся ягонае ласкі і кахання і споўніць з ім сваю волю, і разважала так: «Калі прызнацца яму, то ён не згодзіцца, малады яшчэ, і не спакусіцца такою ласкаю. Але ж калі б ён абяцаў мяне кахаць, я дачакала б да ягонае пары, і лепей буду яго чакаць, чымся стану найвялікшаю каралеваю найбольшага каралеўства. Але баюся, што дзеля маладосці ён не схоча, а дзеля бацькі майго не пасмее гэтага зрабіць».

Аднаго дня, седзячы адна ў пакоі, яна загадала паклікаць да сябе Гаварнара і сказала яму: «Пане Гаварнару, я кахаю твайго Трышчана больш за сябе. Прашу цябе, зрабі так, каб ён пакахаў мяне. А калі не захоча, то я яго ўвяду ў вялікую ганьбу». Гаварнар, пачуўшы гэта, засмуціўся і не ведаў, якое даць рады, і немалую хвілю думаў: «Калі Трышчан споўніць гэта, а кароль даведаецца, то ганебна яго пакарае», і адказаў ёй: «Добра, ласкавая каралеўна, дзеля твае ласкі я зраблю гэта і перакажу яму, каб споўніў тваю волю. Але ён малады, і калі не адразу згодзіцца, то не май гневу на яго». Яна яму вельмі ўдзячна падзякавала, а Гаварнар, засмучаны, пайшоў да гасподы і пачаў разважаць: «І калі ўчыніць гэта Трышчан, будзе дрэнна, і не ўчыніўшы таксама нядобра».

І ён запытаў Трышчана: «Што маеш рабіці? Каралеўна цябе кахае вышэй меры, а калі ты не захочаш яе пакахаць, то рукі на сябе наложыць». Трышчан адказаў яму: «Хай яна мяне і надта кахае, я таго не ўчыню, ліха з ёю. Я не хачу быць свайму пану здраднікам за тую ласку і пашану, якую ён мне чыніць, не ведаючы нават, хто я і адкуль». Пачуўшы ад Трышчана такія словы, Гаварнар вельмі дзівіўся, што ў такім маладым веку той аказаў такую шляхотнасць, бо на той час Трышчан меў толькі трынаццаць гадоў. Гаварнар яшчэ стаў выпрабоўваць яго і сказаў: «Чаму ж ты не хочаш кахаць такое цуднае панны?» Трышчан адказаў: «Яе цуднасць не можа мяне ўвесці ў здраду, а калі б я на гэта і згадзіўся, як ты мне раіш, дык лепш бы ты мяне ад гэтага адгаварыў».

Назаўтра каралеўна паклікала Гаварнара і запытала: «Ці даведаўся ты што ад Трышчана?» Той адказаў: «Трышчан вас кахае шляхотным каханнем і не хоча ўчыніць нічога такога, што было б на здраду твайму бацьку». І каралеўна мовіла: «Няўжо Трышчан зусім мяне пакінуў?» І пайшла вельмі смутная, кленучы той дзень, калі яна нарадзілася, і прыйшла ў спальню і горка плакала.

Аднаго дня была яна ў спальні, думаючы пра Трышчанава каханне, а ў той спальні было цёмна. Тым часам Трышчан ішоў міма ў іншы пакой, не ведаючы, што яна там. Яна ж, убачыўшы яго, выскачыла, схапіла яго за горла абедзвюма рукамі і пачала цалаваць і песціць, а ён, баючыся, каб хто яго не ўбачыў, адпіхваў яе ад сябе абедзвюма рукамі. Яна, убачыўшы, што не можа мець таго, чаго хацела, галасна закрычала. Каралёвы рыцары і сам кароль, пачуўшы, не пазналі, што гэта ягоная дачка, і каралёвы рыцары пабеглі і засталі каралеўну, а яна трымае Трышчана за горла і пачынае скардзіцца: «Панове, Трышчан мяне хацеў згвалціць!» Яны ўзялі яго, прывялі да караля і пераказалі, што чулі ад панны і што самі бачылі. Кароль вельмі засмуціўся і сказаў: «Я ж цябе гадую, так што ўсім відаць, а ты мне чыніш такую ганьбу, а сябе праз гэта на смерць засуджаеш». І загадаў укінуць яго ў цямніцу.

Гаварнар тым часам быў на гасподзе. Дазнаўшыся, што Трышчан у цямніцы, ён вельмі аб гэтым забедаваў і так сказаў сам сабе: «Зусім я загінуў, і нідзе мне няма весялосці, і што са мною будзе, не ведаю». І ён пайшоў да караля, і ўсе стрэчныя сарамацілі яго, кажучы: «Добра ж ты Трышчана вывучыў, што ён цяпер упаў у злое». А Гаварнар, не кажучы ні слова, прыйшоў да караля, прыкленчыў перад ім і сказаў: «Пане, напрамілы Бог прашу, змілуйся, выслухай маё слова!» Кароль дазволіў: «Кажы». Гаварнар папрасіў: «Пане, каб захаваць гэта як след, хачу расказаць табе сам-насам». Кароль пайшоў у іншы пакой, Гаварнар за ім, і там апавёў яму ўсё па парадку, як каралеўна пакахала Трышчана, што яму, Гаварнару, казала, пасылаючы да Трышчана, і як ёй Трышчан адмовіў.

Кароль гэта выслухаў, але не стаў яшчэ літаваць Трышчана, бо яшчэ ўва ўсім гэтым не даў Гаварнару веры, і сказаў: «Я гэта неўзабаве даведаюся; калі будзе праўда, то вызвалю, а калі будзе вінаваты, то абыйдуся з ім як з вінаватым». Гаварнар пайшоў ад караля, а кароль паслаў па дачку і запытаў яе: «Дачка мая мілая, што ты думаеш наконт Трышчана? Я хачу зрабіць яму ліха і пагсціцца за тваю крыўду». Каралеўна не смела пярэчыць і адказала так: «Гаспадару, гэта справядліва, каб кожны атрымаў водле сваіх учынкаў». Кароль сказаў: «Дачка, калі ты захочаш, будзеш яму за жонку, а як не захочаш, то ён памрэ». Тут панна пачала пазіраць там і сям, кароль убачыў, што панна не вораг Трышчану, і казаў прывесці яго разам з Міліенцам, стрыечнікам каралеўны, які перад тым забіў быў чалавека. І калі іх прывялі перад караля, той узяў меч і сказаў: «Бачыш, дачка, гэтых двух юнакоў? Яны абодва маюць памерці, але аднаго я хачу адпусціць, якога захочаш. І ты адпусці аднаго, каго будзе твая воля, а другі няхай памрэ».

Каралеўна не магла ўздумаць ніякае рады і меркавала сама сабе: «Калі адпушчу Трышчана, каралю будзе шкада Міліенца, а калі адпушчу Міліенца, тады мой наймілейшы Трышчан мусіць памерці», і змоўкла, і кароль зразумеў, што яна кахае Трышчана, і яшчэ больш яе прыстрашыў і паўтарыў: «Дачка, выбірай, каго будзе твая воля». Яна, баючыся бацькі, сказала: «Адпусці майго брата, Міліенца». Кароль сказаў: «Тады памрэ Трышчан», і, узяўшы Трышчана за галаў і замахнуўшыся мечам, мовіў: «Зараз тну!».

Каралеўна, бачыўшы гэта, не магла стрываць і ўзмалілася: «Гаспадару ойча, адпусці мне Трышчана, а з Міліенцам рабі што хочаш». Кароль запярэчыў: «Ты ўзяла Міліенца, а Трышчан мусіць памерці, бо ён вельмі вінаваты», і замахнуўся мечам, як бы мерачыся сцяць галаву. Каралеўна ж падскочыла да іх, засланіла Трышчана рукой і гукнула: «Пане, не забівай Трышчана, забі лепш мяне!» Кароль усё стаяў на сваім: «Іначай быць не можа, адно Трышчана мушу сцяць». Тады каралеўна папрасіла: «Пане, дай мне меч, я сама яго заб'ю». Кароль даў ёй меч, і яна, пазірнуўшы на Трышчана, сказала: «Пане, альбо адпусці Трышчана, альбо я сама сябе заб'ю гэтым мечам». Кароль запытаў у яе: «Чаму ты гэтак кахаеш Трышчана?» Яна адказала: «Я яго кахаю больш за сябе, а калі ты яго заб'еш, то я сама сябе заб'ю». І кароль сказаў: «Дачка, бяры сабе Трышчана». А Трышчану сказаў: «Ты ўжо апраўданы».

А Трышчан вельмі пакорна падзякаваў каралю і каралеўне і пайшоў у вялікі палац. Гаварнар, убачыўшы яго, дужа ўзрадаваўся і стаў распытваць: «Як цябе кароль адпусціў?» Трышчан яму расказаў усё па парадку, што як дзеялася. Тады Гаварнар сказаў яму: «Дык калі ты цяпер бязвінны, бі чалом каралю, каб цябе адпусціў, бо калі не зробіш так, як хоча панна, то каб яна табе яшчэ якога ліха не ўчыніла». Трышчан спытаў яго: «Настаўніча, як на твой погляд, куды нам падацца?» Гаварнар адказаў: «Я ўважаю, нам лепш паехаць да двара караля Маркі, дзядзькі твайго, і калі захочаш таіцца там пад чужым імем, дык цябе ніхто не пазнае, бо ты добра падрос з тае пары, як мы з'ехалі з Эліяносу. І можаш там служыць, аж пакуль надойдзе час паясацца на рыцэрства; а як захочаш, кароль цябе ўласнай рукой апаяша». Трышчан згадзіўся: «Хай будзе, як ты кажаш».

Назаўтра Трышчан прыйшоў да караля, ударыў чалом і сказаў: «Я хачу вярнуцца ў свой край», і пакорна падзякаваў за ласку каралю і добрым людзям, і кароль таксама падзякаваў яму за верную службу і абяцаў сваю прыязнь.

А каралеўна, калі ўбачыла, што Трышчан з'язджае прэч, то надмерна засмуцілася і паслала яму з адным пахолкам інаходніка і выжла. Трышчан дакляраваў гэтаму пахолку дарунак, якога той папросіць, і той адказаў: «Пане, калі будзеш рыцарам, хачу, каб ты мяне паясаў». І яшчэ каралеўна паслала да яго, просячы: «Пане, дай мне свой меч, хачу яго памілаваць», і Трышчан паслаў ёй меч, і яна сказала: «Лепш я памру ад Трышчанавага меча, чым буду нават найвялікшаю каралеваю», і закалолася на тым месцы.

Трышчан з Гаварнарам паехалі з Францыі да караля Маркі і ўдарылі яму чалом, і Гаварнар сказаў: «Ласкавы каролю, гэты паніч прыехаў табе служыць, каб ты яго сваёй рукою паясаў на рыцэрства». Кароль прыняў яго з радасцю, абяцаўся яго паясаць, калі той пажадае, але не пазнаў яго. Трышчан служыў шляхотна і цнатліва, і хто б яго ні бачыў, усе дзівіліся, што гэта за паніч.

А потым Трышчан пажадаў паясацца, і кароль загадаў падрыхтаваць усё, што трэба рыцару, і ўсё падрыхтавалі вельмі пачэсна. Трышчан быў у царкве, а назаўтра кароль яго паясаў; тут было шмат добрых людзей, і кожны, хто бачыў яго, казаў: «Мы ніколі не бачылі лепшага рыцара».

---

[1] Кароль Мэліядуш, Трышчанаў бацька.

[2] Гаварнар – слуга, настаўнік і апякун Трышчана.

[3] Нарот – у французскім рамане Нархольт.

[4] Карнаваль – Корнуэл.

[5] Перамонт – у французскім рамане Фарамон. Персанаж шматлікіх рыцэрскіх раманаў.

[6] Французскі раман падае яе імя: Бялінда.





**Томаш Зан (1796 – 1855)**
Паэт, заснавальнік таварыства філаматаў. Адбыў 13 гадоў ссылкі ў Сібіры. Знакавая асоба беларускага грамадскага жыцця першай паловы XIX ст.



**Яўстафі Тышкевіч (1814 – 1873)**
Археолаг, гісторык, літаратар. Ганаровы член Пецярбургскай акадэміі навук. Стваральнік музея старажытнасцяў у Лагойску, знакамітага Віленскага музея старажытнасцяў, зруйнаванага на загад генерал-губернатара Мураўёва пасля паўстання.

# 200 год мінскай гімназіі

Мінская гімназія пачала сваю адукацыйную дзейнасць у 1803 годзе, але ўсе неабходныя афіцыйна-чыноўныя ўзгадненні пра фінансаванне, кадравае і матэрыяльнае забеспячэнне вырашаліся ў 1802 годзе, інакш кажучы, сёлета ёсць нагода для святкавання гімназічнага юбілею.

Зразумела, што школьная асвета прыйшла ў Мінск не з адкрыццём гэтай гімназіі. Да яе дзейнічаў езуіцкі калегіум, былі школы пры іншых касцёлах, праваслаўныя брацкія школы, і наогул дзеці вучыліся тут яшчэ ў часы першага мінскага князя Глеба ў XI стагоддзі. Але стварэнне гімназіі засведчыла тыя перамены, якія прынесла далучэнне Беларусі да імперыі. Недатычна палітыкі адкрыццё гімназіі было безумоўна значнай падзеяй, хоць бы таму, што пашырыла кантынгент навучэнцаў і паўплывала на культурнае жыццё правінцыйнага ў той час Мінска.

Пад гімназію прыстасавалі адзін з лепшых гарадскіх будынкаў – былы уніяцкі мужчынскі манастыр, памеры якога дазвалялі забяспечыць класамі і пансіёнам паўтысячы гімназістаў. Так што па колькасці навучэнцаў першая мінская гімназія мала рознілася ад школаў нашага часу, толькі дысцыпліна была непараўнальна лепшая, а пакаранні больш суровыя. За сто гадоў, якія гімназія займала самы вялікі будынак на Губернатарскай плошчы, у яе сценах змянілася некалькі пакаленняў настаўнікаў і як мінімум дзесяць пакаленняў навучэнцаў. Тут у былых класах, якія цяпер займаць прафсаюзныя функцыянеры, у дворыку, які сёння выкарыстоўваецца пад паркоўку прыватных легкавікоў і ў якім «сацыяльныя санітары» правяраюць змест сметнікаў, было больш жыцця і сэнсу – усё XIX стагоддзе тут гучалі маладыя галасы. У гэтым будынку гадаваліся людзі, якія ў сваёй дарослай дзейнасці склалі гонар нашай радзімы, увайшлі ў яе гісторыю сваімі здабыткамі ў розных сферах жыцця. Імёны некаторых з іх уганараваныя на памятнай дошцы. На жаль, шырокае даследаванне гэтай тэмы пакуль не праводзілася, і можна чакаць, што пры адпаведнай увазе спіс ганаровых гадаванцаў гімназіі істотна пабольшае.

Канечне, сёння выкарыстанне такога старажытнага будынка ў школьных мэтах не будзе магчымае. Тут не зрабіць спартыўнай залі, тут калідоры вузкія, ды і сама плошча пасля зносу шэрагу будынкаў страціла камернасць, утульнасць і ператварылася ў месца паркоўкі легкавікоў, што мала стасуецца з прысутнасцю кансерваторыі, музычнага вучылішча, царквы і касцёла.

Але было б добра, каб прафсаюзы пацясніліся і вызвалілі некалькі пакояў пад музей той першай мінскай гімназіі, хоць пад партрэтную галерэю яе знаных навучэнцаў і выкладчыкаў. Ад прафсаюзаў, як паказалі апошнія гады, карысці не надта многа, а вось ад асветы, ад павагі да школьнай традыцыі – карысць, безумоўна, ёсць. Мінскі гарвыканкам мае магчымасць зрабіць такую добрую справу. Усё ж усім мінчукам было б цікава паглядзець, як выглядаў клас той гімназіі, у якім вучыўся, прыкладам, Станіслаў Манюшка ці Янка Лучына. Гэта рэальная мясціна, злучаная з іх жыццём. Не зашкодзіла б нашаму Міністэрству адукацыі праявіць пэўную ініцыятыву, тым болей, што гімназічная (класічная) адукацыя аказалася тым добра забытым старым, што цяпер успрымаецца як новае дасягненне школьнай справы. Такая ўвага сапраўды адпавядала б значнасці блізкага ўжо юбілею.





Фота У. Шлявак



**Станіслаў Манюшка (1819 – 1872)**
Кампазітар, дырыжор. Аўтар вядомых опер «Галька», «Страшны двор», 300 сольных песень.



**Аляксандр Аскерка (1830 – 1911)**
Грамадскі дзеяч. У 1862 г. арганізаваў выданне беларускага буквара-катэхізіса. Быў адным з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 гг., адбыў катаргу.



**Іван Неслухоўскі (1851 – 1897)**
Паэт, перакладчык (псеўданім Янка Лучына). Адзін з пачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры.

Сяргей ПАНІЗНІК

# «Шчыра, як на духу...»



## (Для чарговага выдання кнігі споведзяў)

***– Ці падабаеца Вам Вашае імя? Ці не шкадуеце, што не дасталася якое-небудзь іншае?***

Няспраўджаным каханнем мамы
названы я.
Я – самы, самы, самы...

***– Які колер вачэй і валасоў Вам падабаецца найбольш?***

Вочы – неба. Валасы –
ласай ночы каласы.

***– Якія станоўчыя якасці ў чалавеку найбольш цэніце?***

Людзей станоўчых паважаю
і «палажыцельных» люблю.
Згібастыя не варты жалю.
А «паўзуноў» я не кармлю.

***– Якія чалавечыя заганы не церпіце?***

На эміграцыю загнаны –
Ў закутак родны свой ...
Закуты,
Свае падлічваю заганы.
Яны так і завуцца: путы.

***– Ці верыце ў сяброўства?***

Калі няма да сябра веры, –
краніся рыфмаю паперы:
а раптам слоўнае сугучча
у нацыю і нас улучыць?
Саспеем – і мы ўсю Краіну
«зрыфмуем» у адну сябрыну.

***– Які Ваш любімы занятак?***

Люляю словы, як арэлі.
І не трасянкаю кармлюся.
Хачу я, каб і вы сагрэлі
нямыя грудзі Беларусі.

***– Як Вы разумееце шчасце, шчаслівы лёс, шчаслівае жыццё?***

Стагоддзямі мы жалімся і просім...
Каму? Каго?
Свой горб ахвотна носім.
Не выпрастаемся –
нам не стаць па восі
хрыбетніка свайго.

***– Які момант у Вашым жыцці Вы лічыце самым радасным?***

Мой успамін жытло малюе
(пазней яго калгас растрос):
дзіцё спявае «Алілуя!»,
а дзецюкі «Хрыстос васкрос!»

***– Які ў Вашым жыцці момант быў самы горкі, нешчаслівы?***

Усё з гаркотаю спілыло.
А ратавалі мамы слёзы, –
калі ламаў свае калёсы,
калі выкручвалі крыло.

***– Чаго Вы яшчэ хацелі б у жыцці дасягнуць ці дачакацца?***

Не заракаюся: «Пашчасціць...»
З нябёсаў не было дароў.
І не манюся: «Жыў-здароў...»
Калі Айчына – не прычасце,
няма ў яе гаспадароў.

***– Якая асоба ў гісторыі чалавецтва Вам найбольш сімпатычная?***

Чало і Век: гатоў партрэт.
Пчала... Скарыны сілуэт.
... Ці ж будзе Веку і Пчале
узятак на маім чале?

***– Герой якога рамана ці іншага мастацкага твора Вам блізкі?***

Мацюк нясецца з агарода.
Памёр фальклор з Душой народа?
Не разнасцежыцца Душа, –
не буду варты я й граша.

***– Ваш любімы паэт, празаік, кампазітар, жывапісец?***

У генія скразны палёт.
( Я – выраю – скаруся).
Купала, зрынуты ў пралёт,
ляціць над Беларусяй.

***– У чым, па-вашаму, найбольш поўна праявіўся геній прыроды?***

Слана і Муху за каўнер
цягалі. Іх віна – памер.
У спрэчку ўбіўся Сатана
(ён з Мухі выняньчыў Слана):
– Тут вінаваты толькі Слон.
Ідзе да Мухі на паклон.

***

Так і не ведае Слуга :
духоўнасць не аб'ём, вага!

***– Якая жывёліна (звер, птушка) Вам найбольш прыемная?***

Фенікс! Попелу падкінем:
не адродзімся – загінем.

***– Якая Ваша любімая страва?***

Чарка, шкварка і варголы...
Будзем шлункі пахмяляць, –
зноў накінуцца манголы...
Хто нас будзе вызваляць?

***– Пра якую мясціну на зямлі ў Вас застаўся самы прыемны ўспамін?***

На продкавых хутары пекла і рай.
О Маці, ты наш Мацярык
дагледала.
Адтуль пачынаўся радзінны мой
Край.
Я зноў на краёчку. Краіны не
стала.
Бес-перс-пек-тыў-ныя хутары...
Вярну Беларусь я на тыя двары?

***– Калі б лёс прымусіў пакінуць Радзіму – якую краіну выбралі б для перасялення?***

Пакуль зусім не занядужыў, –
свой выбар думнасцю адужай:
навошта пакідаць чысцец?
Краіна Перасялення Душаў –
усё Прыдзвінне: мой вянец
і продкаў межавы капец.

***– Ваша ўяўленне пра сямейнае шчасце?***

Сям'я – маленькая дзяржава,
дзе нацыя гадуецца.
У нас жа бацька – кол іржавы,
бо маці – вуліца.

***– Аб якім упушчэнні (нескарыстанай магчымасці) на сваёй жыццёвай дарозе шкадуеце?***

Планіда скручвае мяне.
Жыў пры вайне і па вайне...
І ўсё ж таго няма ў мяне,
за што ўміралі на вайне.

***– Ваша стаўленне да ўдзелу ў палітычным жыцці краіны?***

Палітыка – усенародны зрух:
тут кожны – тычка, кожны – зух!
Да ўлады буду я старонні –
і мышы папаўзуць па троне.

***– Якое значэнне надаеце бытавым умовам жыцця і працы?***

Пакуль што ў нас такая «праца»:
і днём і вечарам – н а б р а ц ц а.
Пярэдых – самы заімшэлы.
З бутэлькаю сысці ў «Сайшэлы».

***– Ці ёсць у Вас фінансавая мара?***

Калі ўласны талер будзе –
запішуцца й бамжы у людзі.

***– Што (які матэрыял, тэму) шукаеце найперш у свежых газетах?***

Што такое «свежая» газета?
Жоўтая – нясвежая. А гэта,
з ордэнам савецкім, ці чытанка?
Ох, на п'едэстал яе, да танка!

***– Якую кнігу (твор) любіце перачытваць?***

Мы Самаеды. Наш духоўны крах
прытупае з размоўнага разводдзя...
Я «Лемантар» чытаю па складах –
як Біблію Дваццатага стагоддзя.

***– Ці верыце ў непазбежнасць, наканаваную лёсам?***

Ніхто не выкруціцца т а м,
дзе пад рэнтгенам Справядліўца –
аблічны, твары, морды, «ліца»,
а сведкі – толькі слугі Бога.
Прадаўцам роднага, святога –
пакуты вечнага астрога.

***– Якая яна – жанчына Вашай мары?***

Дарога сцягі звівае.
А мы
вяртаемся з калымы:
і я,
старшыня зімы,
і ты –
вясны звеннявая.

***– Ваша стаўленне да рэлігіі?***

Жыў і бязбожнікам я. Можна
душу бяспраўную бязбожна
здаваць у наймы фарысеям,
служыць каронам і расеям...
Пустую можна галаву
ў касцёл уткнуць, або ў царкву, –
не будзе бубен дабрасеем...
Я ў сэрца Бога пасяліў.
Наўкруг паменела пустэчы.
Чакаю, блудны сын, сустрэчы
з амбонам роднае зямлі.

***– Ці верыце ў прыкметы?***

Былі прарокі і зануды.
Гучала: «Асадзі!» і «Злезь...»
Народ, стагоддзямі прыгнуты,
так і не выпрастаўся ўвесь.
Бо не мацуюць пазванкі
ні дом, ні школьныя званкі.

***– Ці прыслухоўваецеся да чыёй-небудзь думкі, прымаючы рашэнне?***

Мой люд – жардзіны ў гарадзьбе.
Мой люд – каронная аправа...
За тое, што люблю Цябе,
і ненавідзець маю права.

***– У чым, на Вашу думку, нацыянальная ідэя Беларусі?***

Ідэя – рунь, сцябло, калоссе.
Ідэя – вязніца-закратак.
Ідэя – тое, што ўзнялося
над вольнай памяццю зярнятак.
Нацыянальнае ўзгалоссе
па-над галовамі прыўзнята...
Яшчэ паўкрока, без аглядак,
да Беларусі засталося...
Ідэя – прысвятак да Свята.

***– Якой Вы бачыце Беларусь праз...?***

А Беларусь не перакленіць,
не сцерці з карты... Завадатар
загнецца, стахне – не ўваскрэсне.
Я сам – Яе абруч-экватар.

**Паспаведнае**

Сполахам
сполаты
спод:
спраты выношу на спогадзь.
Спомню затоены код –
споўню жыццёвую споведзь.
Страты святла – ўпільнаваць!
Слова – не споднік і зводнік:
варта сябрынаю браць
зваду – і несці на ходнік.
Споведзь – асмеласці зрух,
спадкі сумленнага Звону...
Спозняцца мыслі – і круг
не разамкнецца да скону.
Сэрцайка, смагу глушы:
СПОВЕДЗЬ – ратоўная праца...
...Стала лягчэй на душы.
Хочацца зноў усміхацца.

***

Хай палюднее ў глушы!
Споведны свет не чужы:
радасна будзем вітацца.

**2002. Верасень.**



У дзяцінстве. Аўтар споведзі з бацькамі і сваякамі ля роднай хаты

# Заасфальтаваны 37-ы

## *65 гадоў назад цесляры агароджвалі Курапаты 3-метровым плотам*

Тая цяслярская брыгада, што узводзіла агароджу вакол няблізкага ў той час да горада ўрочышча, наўрад ці ведала, якую таямніцу прызначана засцярагаць ад цікаўных іхная работа. Яны рабілі «сакрэтны спецаб'ект», які апекаваў НКУС. Ён і па сёння хавае ад грамадства бальшыню сваіх пякельных сакрэтаў.

Даўно няма ў жывых тых следчых, што ботамі і гумавымі палкамі выбівалі з невінаватых «прызнанні» ў антысавецкай дзейнасці, шпіёнстве, нацыяналізме, няма на белым свеце і той каманды выканаўцаў смяротных прыгавораў, што на дзесяцігоддзі пераҗыла свае ахвяры, няма той жахлівай сталінскай дзяржавы, няма яе карных органаў, але насуперак здароваму сэнсу курапацкія «сакрэты» застаюцца пад абаронай нкусаўскага грыфа «звышсакрэтна».

У Курапатах растуць іншыя дрэвы, чым раслі тады, пры пачатку масавых забойстваў 37-га году. Сама зямля тут рассечаная будоўляй газаправоду, а потым шашы, а летась, з пашырэннем МКАД. Як воспіны, на ёй засталіся пазнакі працы нейкіх таямнічых далакопаў, што зацiралі тут у пасляваенныя гады сляды генацыду бальшавіцкай улады супраць савецкіх людзей. Тут ніколі не былі пазначаны брацкія магілы. Тут прыходзіцца асэнсоўваць страшныя рэчы: людзі, якія стаялі пры ўладзе, люта ненавідзелі іншых людзей, загадвалі таямніча іх забіваць, цешыліся гэтым, і абвяшчалі сябе будаўнікамі светлай будучыні чалавецтва. Сярод людзей хапае людажэраў у чалавечым абліччы.

Страшна думаць таксама і пра тое, што яны пакінулі не лепшых за сябе наступнікаў, такіх жа захавальнікаў «дзяржаўных сакрэтаў». Ну, дзе сёння магчыма даведацца, калі дакладна пачаліся расстрэлы ў Курапатах і калі яны скончыліся? Ніякія так званыя «органы» не падаюць спісы людзей, у якіх тут было аднята даразанае Богам жыццё. Маўляў, няма дакументаў – зніклі у часе вайны. Аднак чамусьці нікуды не зніклі тыя ўнутраныя «органаўскія» дакументы, на падставе якіх тысячы імёнаў увесь пасляваенны савецкі час былі пад жорсткай забаронай нават простай узгадкі.

65 год назад у такія ж вераснеўскія дні, як цяпер, у Курапатах ужо гучалі стрэлы масавага вынішчэння людзей. Па тых дакументах, якія даступны даследнікам, відочна, што 2 жніўня 1937 году пачаліся масавыя арышты так званых «польскіх шпіёнаў». Іх было арыштавана болей за 15 тысяч, а расстралялі болей за 14 тысяч. У чым была віна гэтых людзей? Ні ў чым. Адно, што былі запісаны ў пашпартце палякамі. А палякамі запісвалі іхных бацькоў-беларусаў, што былі каталікамі. Вось іх паклалі ў курапацкія брацкія магілы. Калі органы ведаюць нешта іншае пра іхні лёс, то чаму б не наведаць? Побач пакладзена шмат беларусаў, што ўцякалі з «панскай Польшчы» ў пошуках савецкай роўнасці. Яны таксама лічыліся шпіёнамі. У тую ж восень тут масава расстрэльвалі беларускую творчую інтэлігенцыю і беларускія кадры кіраўнікоў. Зразумела, што пайменных спісаў (каго разам з кім і якога дня паставілі на край магілы і гакнулі куляй у галаву) у нкусаўскіх архівах «не захавалася».



1 верасня, калі ў Міры каля старажытнага замка праводзіўся чарговы Дзень беларускага пісьменства, ніхто з урадавай дэлегацыі, што сваёй прысутнасцю нібыта сведчыла пра клопат аб беларускай культуры, не ўзгадаў тых дзеячаў беларускай навукі і пісьменства, каму з дапамогай нагану прадзіравілі чэрап у Курапатах. Маўляў, нашто азмрочваць сумнымі ўзгадкамі вясёлае народнае гулянне!

Дзяржава, якая знаходзіць грошы на фармальнае святкаванне штучных святаў і не знаходзіць грошы для ўшанавання памяці ахвяраў сталінскага генацыду, выразна дэманструе свае ідэалагічныя арыенціры.

На курапацкай зямлі міжвольна закранае сэрца горычччу такая думка: калі ўявіць жывымі ахвяры Курапатаў, дык і сёння не мелі б яны павагі ад улады. Прыкладам, неяцяжка ўявіць, колькі абразаў пачуў бы сёння Браніслаў Тарашкевіч, калі б Бог даў яму дажыць – за сваю граматыку, за заклікі да карыстання беларускім словам і беларускай пісьменнасцю, а за ўдзел у дэманстрацыі на Дзень Волі атрымаў бы гумавай палкай, як атрымоўвалі цяперашнія прафесары і дактары. Усе тыя паэты і пісьменнікі, мастакі і навукоўцы, якіх забілі ў Курапатах як «беларускіх нацыяналістаў», былі б у вачах улады і сёння «зацятымі беларускімі нацыяналістамі». Таму, уласна кажучы, не цяжка зразумець, чаму ўлада робіць выгляд, што Курапаты – выдумка. Прызнаўшы ахвяры – ахвярамі, трэба будзе прызнаць незаконнымі і падставы арышту, здзекаў над людзьмі, безумоўную віну той нацыянальнай і моўнай палітыкі, якая правакавала вынішчэнне соцень тысяч ні ў чым невінаватых людзей. А яна тая, 65-гадовай даўніны, палітыка ў сваім ядры не адрозніваецца ад сённяшняй. Бо і сёння ў нас пануе расійскі шавінізм, закрываюцца беларускія школы, беларуская слова пастаўлена ва ўмовы ганьбавання, непавагі, выціскання з ужытку. Ды ўціск рускамоўнага радыё і тэлевізіі цяпер непараўнальна большы. Цяпер болей спецыялістаў, якіх адвучыў ад роднай мовы вуз. Сёння сустрэчу з афіцэрам міліцыі, які гаворыць па-беларуску, можна лічыць цудам. Сёння ніводзін міністр не гаворыць па-беларуску, апроч дакладна зафіксаваных пратаколам момантаў, напрыклад – выступ на Дне беларускай пісьменнасці, які бывае раз на год.

Калі хто думае, што ўсё гэта не вынік Курапатаў, моцна памыляецца. Не просты, зразумела, вынік, але тым горай, што «засакрэчаны».

Існуюць пэўныя тэхналогіі, якія аслабляюць ці вынішчаюць памяць. Прыкладам, у грамадскі ўжытак запускаецца вірус пад назвай «наскучыла». І мноства людзей паслухмяна паўтарае: ***Нам наскучыла чуць пра Курапаты. Мы ўсё ведаем. Што мы можам зрабіць. Зараз не страляюць. Любы лапік зямлі ў нас паліты крывёй. Пра ўсіх не ўпомніш.***

Ці куды больш небяспечны вірус прагматызму: ***Нам патрэбна шырокая шаша. Не мы вінаватыя, што асфальт трэба класці праз урочышча. Эканоміка больш важная, чым памяць невядома пра каго. Чым плакаць у Курапатах, лепей паслухаць песні ў Віцебску.*** І да таго падобныя самазаспакаенні.

Цяжка, канечне, асэнсоўваць, што асфальт, раней чым пакласціся на дарогу, кладзецца на нашыя мазгі, і ад іх ужо лёгка адскоквае і лом, і спачуванне, і літасць.

**Юры СУРЫН**

# Бацька. Маці. Сын.

***Лічыцца, што мацярынская любоў – самая бескарысная і святая. Маці дзеля шчасця свайго дзіцяці здольная пайсці на смерць, наважыцца на забойства ці моцна ўзненавідзіць таго, хто трымае над ім уладу. Можа таму паміж нявесткамі і свякрухамі рэдка наладжваюцца добрыя стасункі. Не былі выключэннем і адносіны паміж маці вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста і трыма ягонымі жонкамі, сярод іх і Барбарай Радзівіл.***

**Канстанцін ТАРАСАЎ**

### Маці

Польскі кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Стары меў веку 48 гадоў, калі аўдавеў у 1515 годзе. Да гэтай бяды дадавалася і значнейшая: у караля былі дзве дачкі і ніводнага сына. У ягонага бацькі, караля і вялікага князя Казіміра, было шэсць сыноў і сем дачок, што дазволіла парадніцца з мноствам еўрапейскіх дынастыяў, а сыны каранаваліся ў Польшчы, Венгрыі, Чэхіі, ВКЛ, і толькі самы малодшы – Фрэдэрык – не трымаў у руках дзяржавы, бо стаў кракаўскім біскупам. Дарэчы, з прычыны шматсыноўя бацькі Жыгімонт Стары позна, ужо па братах Яну Альбрахту і Аляксандру, атрымаў вялікакняскую і каралеўскую кароны. У 1515 годзе, ён стаяў перад пагрозай апынуцца апошнім з Ягайлавічаў на кракаўскім і віленскім тронах. Не маючы спадкаемцы, Жыгімонт мусіў шукаць наступную жонку.

З прапанаваных кандыдатак Жыгімонт абраў італьянку Бону Сфорцу з роду Медзічы. Шлюб, як дазваляў звычай, адбыўся ў адсутнасць 50-гадовага маладога, 6 снежня 1517 году ў італьянскім замку Кастэль Капуана. Караля заступаў калішскі кашталян Станіслаў Астрарог, які за кожным разам, калі цырымонія патрабавала ад маладога пацалаваць маладую, цалаваў свае пальцы, а потым датыкаўся да Боны.

Пад канец снежня маладая рушыла ў Польшчу са сваім дваром, які складалі 345 асоб, галоўным чынам італьянцы. Жыгімонт сустрэў жонку недалёка Кракава, іхны ўрачысты ўезд у сталіцу суправаджалі болей за 10 тысяч шляхты. Наступнага дня вечарам госці праводзілі каралеўскую пару да спальні, дзе 51-гадовы кароль сеў на ложак з правага боку, 24-гадовая Бона – з левага. Слугі падалі ім віна й салодкага...

### Сын

Хутка па шлюбе Бона зацяжарала і ў студзені 1519 году нарадзіла каралеўну. Жыгімонт Стары, бацька дачок ад першага шлюбу, быў надта расчараваны.

Але пад канец таго году каралева зацяжарала зноў, і 1 жніўня доўгачаканы каралевіч пабачыў свет. Праз месяц адбыўся хрост і немаўлятка атрымала імёны Жыгімонт Аўгуст.

Яму было ўсяго два гады, калі Бона дамаглася пацверджання дзедзічных правоў сына на Вялікае княства Літоўскае. Можна нават сказаць, што менавіта ейнае жаданне забяспечыць сына незалежнай каронай адтэрмінавала Люблінскую унію на паўстагоддзя. Дзеля гэтага яна ліставалася з найбуйнейшымі магнатамі ВКЛ Радзівіламі і Гаштольдамі, якія і выканалі ейнае жаданне. Зразумела, што не задарма. У аддзяку яна выклапатала ў мужа для гетмана Юры Радзівіла прывілей троцкага кашталяна, а для Станіслава Гаштольда – тытул ваяводы Навагрудскага. Па іроніі лёсу, гэтыя паны будуць мець адносіны да самага нешчаслівага перыяду жыцця Боны.

### 9-гадовы вялікі князь

Болей за тое, Бона патрапіла ўзняць каралевіча-падлетка на трон Вялікага Княства. З гэтаю мэтаю яна выправілася ў Вялікае княства, і 18 кастрычніка 1529 году наступіла ўрачыстае ўзвышэнне Жыгімонта Аўгуста на вялікакняскі сталец. Хлопчык заняў месца паміж бацькамі ў залі Дольняга замка ў Вільні. Яму ўручылі меч і шапку вялікага князя. На цырымоніі прысутнічалі ўсе літоўскія магнаты і ўсе адчувалі вялікае задуменне. У такім узросце не садзіўся на трон ніводзін вялікі князь на Літве і Беларусі. Нават яго дзеду Казіміру, калі літоўскія радныя паны насуперак палякам абралі яго вялікім князем, было 14 гадоў.



Жыгімонт Стары



Бона Сфорца

### Кароль пры жывым каралі

Жыгімонт Аўгуст быў адзіным сынам каралеўскае пары. Маці яму ні ў чым не адмаўляла, з ім звязвала свае галоўныя жыццёвыя амбіцыі. Зрабіла для яго нават тое, чаго да яе ў краіне ніколі не здаралася: Жыгімонта Аўгуста абралі на караля яшчэ пры жыцці бацькі.

Каралеўская элекцыя сына пры жыцці бацькі адбылася наступным годам у Вавельскім касцёле. Пасля каранацыі Жыгімонт Аўгуст атрымаў у каралеўскім замку ўласны апартамент і асобны двор і вёў звычнае яму жыццё на італьянскі, прышчэплены атачэннем маці, звычай – танцы, музыка, забаўкі.

Бону часта папракалі, што каралевіч вядзе нярыцарскі лад жыцця, «марнуе час у Кракаве ў атачэнні паненак у спевах і скоках». Таму ў 1538 годзе з увагі на гэтакую думку шляхты маладога караля выправілі ў паход пад апекаю гетмана Тарноўскага. Выправа была цяжкая, і распешчаны сын Боны пачаў скардзіцца на шматлікія невыгоды. Вестка пра пакуты, якія церпіць у войску 18-гадовае дзіця, дасягнула Боны, і каралева пачала дакучаць мужу скаргамі, пакуль той не адклікаў сына, што выклікала незадаволенне ў шляхецкіх колах.

Наогул, Бона вызначалася моцнаю воляй і ўмела прымаць цвёрдыя рашэнні. Яна лёгка выбухала гневам, а з гадамі яе скандалы набывалі гістэрычны характар. Яна качалася па падлозе, галасіла, ірвала на сабе валасы, драпала сабе твар, усіх праклінала, нават бога. Жыгімонт, шкадуючы жонку за гэтыя эпілепсічныя прыпадкі, і каб іх менш правакаваць, выконваў амаль усе ейныя жаданні, і часта, відаць, для адпачынку ад сямейнай напружанасці, выпраўляўся без пільнай патрэбы з войскам у паходы.

### Няўдача

Апроч першай дачкі Ізабэлы, Бона нарадзіла яшчэ трох – Соф'ю, Ганну, Кацярыну. З другім сынам ёй не пашчасціла. Яна была цяжарная ім у 1527 годзе. Нягледзячы на такі свой стан, Бона паехала на ловы, бо вельмі любіла гэты мужчынскі занятак. З Белавежскай пушчы прывезлі вялізнага мядзведзя. Звер напачатку быў ціхі, потым задраў шмат сабакаў, разлютаваўся, урэшце кінуўся на людзей і сярод першых напаў на Бону. Тая кінулася наўцёкі, але конь спатыкнуўся і выкінуў каралеву з сядла. Бона прадчасна нарадзіла сына, ахрышчанага Войцехам Альбрахтам, які таго ж дня памёр. Болей Бона не цяжарала. Было ёй тады 33 гады, а Жыгімонту – 60.

### Гаспадарыня

Бона была адораная эканамічнай кемнасцю, актыўнасцю, смеласцю і надзвычайнай прагай грошай. Апроч уласных набыткаў ейнае багацце буйна ўзрастала праз наданні мужа. На другі год шлюбу яна атрымала ад яго Кобрынскае і Пінскае княствы. Каб імі валодаць, Бона чакала болей за тры гады, пакуль імі карысталіся пажыццёвыя ўладальнікі. У 1524 годзе Бона заклала ў Клецкім старостве Сяняўку, першае з мястэчак, якія яна пабудавала шмат. У тым жа годзе Жыгімонт Стары ахвяраваў жонцы пушчу ад ракі Супраслі аж па Коўна ў Жмудзі праз усю Гарадзеншчыну – 200 км у даўжыню ды 50 у шырыню. У Юрыя Радзівіла каралева выкупіла сабе Гродзенскае староства, у Гаштольдаў – Бельск, Нараў, Сураж. Мела са сваіх уладанняў у Беларусі і Літве 36.000 дукатаў даходу штогод.

Бона ніколі не грэбавала нават адзінкавымі будынкамі ў гарадах і на вёсцы: хоць дом, хоць млын – з усяго выціскала пэўны грош. Умела спекуляваць набыткамі, перапрадаючы з выйгрышам тое, што набывала. Не саромелася судзіцца за маёмасць нават з дробнай шляхтай. Але і была прыкладам дзелавітасці, бо будавала шпіталі і касцёлы, пачала меліярацыю балоцістых земляў, падымала пусткі, а яе мястэчкі атрымлівалі магдэбургскае права. Пабудавала канал у ваколіцы Пінска і мост цераз Буг. Менавіта дзякуючы яе ініцыятыве была праведзена валочная рэформа, а вёскі на ейных землях будаваліся паводле плану.

У Вільні яна зафундавала марմуровае надмагілле Вітаўту з надпісам лацінаю: «Бона Сфорца, польская каралева, знакамітаму ўладару Аляксандру Вітаўту збудаваць казала гэты помнік». На яе загад Гарадзенскі замак быў перабудаваны ў рэнесансным стылі.

Калі б яна абмежавалася эканамічнымі справамі, яе вобраз у гісторыі меў бы больш станоўчую афарбоўку. Але ёй жадалася кіраваць сынам, які, на яе думку, меў жаночы характар, – жаданне, якое ў выніку выклікае сыноўны бунт.

### Першая княгіня

Любы сын Боны ейнымі намаганнямі ў 23 гады ажаніўся з 17-гадовай эрцгерцагіняй Аўстрыйскай Лізаветай. Гэтая дзяўчынка была першай з пятнаццаці дзяцей чэшскага і венгерскага караля Фердынанда. Ужо ў чатыры гады яе засваталі за Жыгімонта Аўгуста, але Бона настроілася супраць шлюбу, бо хацела, каб сын ажаніўся з дачкой французскага караля Маргарытай. Каранацыя маладой каралевы адбылася ў траўні 1543 году, і з тае хвіліны Бона проста не хавала нянавісці да нявесткі. Яна не дазволіла Лізавеце мець вялікі двор, пры чым са 114 дваранак Лізаветы толькі трое былі немкі. Потым, як ведзьма, пераследавала яе: загадала дочкам не размаўляць з братавай, перашкаджала кантактам з бацькам, старанна намаўляла сына супраць некаханай жонкі, не дазваляла мець уласнага кухара, што выклікала чуткі, што Бона хоча нявестку атруціць стравамі з агульнай кухні. Потым пачала дамагацца разводу сына з Лізаветай на падставе таго, што яны сваякі. Так што жыццё юнай каралевы ні ў кога не выклікала зайдрасці.

У адносінах да Лізаветы, апрача нянавісці ўладарнай свекрыві, тоілася і зайздрасць. Цяпер на каралеўскім двары жылі дзве каралевы. Адну называлі «маладая». Да другой прыжыўся прыметнік «старая» – і ўжо не адчапіўся. Падобна таму, як «старым» празвалі Жыгімонта, калі ён абвясціў каралём непаўнагадовага сына.

Улетку 1543 году ў Кракаве пачалася эпідэмія, і двор пакінуў горад. Бона скарыстала выпадак, каб разлучыць мужа з жонкаю. Яна паслала Жыгімонта Аўгуста ў Вільню, а Лізавету забрала з сабою ў Варшаву.

Вось так робяцца лёсавырашальныя памылкі. Вырваўшыся з-пад кантролю маці, сын пачаў жыць па-свойму. Малады вялікі князь жыў у Вільні бяздумна, выдаткоўваў шмат грошай, у палітычных справах не зважаў на жаданні маці. Паралельна ён закахаўся ў прывабную ўдаву ваяводы троцкага Барбару Радзівіл. Да таго ж Жыгімонт Стары насуперак Боне перадаў сыну паўнату ўлады ў ВКЛ, і тады да яго прыехала нялюбая свекрыві Лізавета. З ёй яму было няўтульна, і ў траўні 1545 году Жыгімонт Аўгуст прыехаў у Кракаў. Стары бацька плакаў з радасці, што бачыць сына. А Бона прывітала яго з каменным тварам і выказвалася пра сына крытычна нават пры чужых. Гадавы кра-

# Тры нявесткі

каўскі побыт Жыгімонта перапыніла паведамленне, што Лізавета цяжка захварэла.15 чэрвеня 1546 году яна на 20-ым годзе жыцця памерла ў Віленскім замку. Пахавалі вялікую княгіню ў капліцы св. Казіміра побач з вялікім князем Аляксандрам. Жыгімонт Аўгуст стаў вольны для новага шлюбу.

### Чары кахання

Калі няшчасная Лізавета смяротна захварэла, у Жыгімонта Аўгуста ўжо была каханка, якая жыла блізка палаца вялікай княгіні. Гэта была Барбара Радзівіл, удава па ваяводзе Станіславу Гаштольду. Увосень 1543 году вялікі князь вырашыў паехаць у радавую рэзідэнцыю Гаштольдаў – Геранёны, каб вырашыць пытанне аб спадчыне роду, што згас на ваяводзе. Згодна з тагачаснымі законамі, маёмасць роду ў гэтым выпадку адыходзіла да вялікага князя, які і вырашаў яе лёс.

У Геранёнах пасля смерці мужа жыла яго 21-гадовая ўдава. Ейным бацькам быў той самы Юры Радзівіл – кіеўскі ваявода, вялікі гетман літоўскі, з якім раней ліставалася Бона і які мусіў дапамагчы ейнаму сыну атрымаць правы на вялікакняскую карону. З першага позірку на Барбару Жыгімонт закахаўся і перанёс на яе ўсе пачуцці, якія раней выказваў маці.

Бона, адчуваючы прахалоду да сябе, і мноства зайздроснікаў пастараліся стварыць Барбары гэткую дурную славу, якой да яе не мела ніводная знаная асоба ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы жанчына. Непрыхільныя да яе паны, малюючы яе вобраз перад дэпутатамі сойму, паведамлялі пра надзвычайную здольнасць Барбары да распусты: нібыта за 10 месяцаў свайго ўдаўства яна зазнала 38 каханкаў, якіх ліхаманкава мяняла, не зважаючы нават на сацыяльны стан, і таму ў спіс патрапілі і шляхта, і конюхі, і прыгонныя сяляне, і нават спакушаны ёю манах.

Людзі заўжды зайздросцілі яркаму каханню, а ў выпадку з Барбарай Радзівіл – і ўдачы кабеты, якой пашанцавала пасля старога ваяводы звесці каханне з чалавекам маладым, да таго ж вялікім князем і магчымым каралём. Зразумела, што злосныя плёткі нарасталі, як снежны ком. Асабліва пасля таго, як Барбара Радзівіл пераехала з Геранёнаў у Вільню, у палац свайго брата Мікалая Радзівіла Рудага. Побач стаяў палац вялікага князя, і спецыяльна пабудаваны падземны праход злучыў два будынкі. Увечары князь прыходзіў, а ранкам Барбара праводзіла яго. Уначы 28 ліпеня 1547 году ў пакой, дзе былі Жыгімонт Аўгуст і Барбара, увайшлі браты Мікалай Чорны і Мікалай Руды Радзівілы і прывялі з сабою ксяндза... Шлюб быў таямнічы – ведалі пра яго, апрач маладых, ксяндза, братоў Радзівілаў, яшчэ два шляхціцы, якія сталіся сведкамі...

### Падманутая маці

Па смерці Лізаветы каралева Бона спланавала, што малады кароль ажаніцца з адзінаю дачкою Альбрэхта Гогенцолерна, князёўнаю Ганнаю, і праз гэты шлюб завалодае Прусіяй па смерці ейнага бацькі. Тое, што Жыгімонт Аўгуст моцна закахаўся ў нейкую ўдаву, у разуменні Боны не магло пашкодзіць здзяйсненню яе прагматычнага праекту. Каралева нават думкі не магла дапусціць, што ўлетку 1547 году яе сын употай ажэніцца са сваёй каханкай. Пра гэты таямнічы шлюб Жыгімонту Старому і Боне паведаміў увосень стрыечны брат Барбары Мікалай Радзівіл Чорны. Каб падняць важнасць роду, Мікалай Радзівіл за вялікія падарункі здолеў атрымаць у Вене ад імператара Карла V княскі тытул. Так што Барбара ўжо выступала ў шлюбе як прадстаўніца свежаспечанага княжацкага роду. Навіна пра «ганебны» шлюб была такою неспадзяванаю, што бацькі не далі веры, і Бона напісала да некалькіх паняў у Вільню, каб тыя перадалі ёй сапраўдныя звесткі пра норавы сынавай каханкі, бо каб толькі частка плётак адпавядала праўдзе, дык і тады Барбара ніяк не адпавядала ўяўленням пра гонар вялікай княгіні і польскай каралевы.

### Бацькава veto

Неўзабаве сам Жыгімонт Аўгуст пацвердзіў, што ажаніўся з Барбарай. Стары кароль, які меў вярхоўную ўладу над Вялікім Княствам, разаслаў лісты да літоўскіх паноў, дзе забараняў ім прызнаваць шлюб, які «ганьбуе Карону». Напісаў таксама да дзвюх замужніх дачок, Ядвігі ды Ізабэлы, каб тыя ўпрасілі брата парваць бессэнсоўны і крыўдны саюз. Увесну 1548 году Жыгімонт Аўгуст меўся схіліць Раду Вялікага Княства Літоўскага прызнаць ягоную жонку, але бацька, кароль Жыгімонт Стары, рашуча выступіў проці гэтага.

Невядома, як скламіся б падзеі з прызнаннем, каб не смерць старога караля. Памёр ён у прысутнасці жонкі, дачок, сенатараў у 1548 годзе на Вялікдзень. Веку меў 81 год.

Жыгімонт Аўгуст адрэагаваў на паведамленне пра бацькаву смерць, дастаўленае вестуном, гэтак: ён замкнуў ганца ў каморы, выставіў варту, каб ніхто да яго не падыходзіў і не даведаўся пра горасную падзею, а сам памчаў за жонкай, каб афіцыйна прадставіць яе сойму і ўжо пасля прызнання яе вялікай княгіняй перайсці да фармальнай жалобы.

### Другая княгіня

Смерць мужа цалкам змяніла становішча Боны. Уладаром стаў сын, і старой каралеве не было дзеля чаго заставацца на Вавелі ў каралеўскім замку. А сын быў заняты клопатамі з прызнаннем і каранаваннем Барбары і 17 красавіка прадставіў яе Радзе як сваю жонку. Да маці ён наўмысна накіраваў у якасці свайго пасла чалавека, непрыемнага ёй ужо самім сваім прозвішчам – літоўскага крайчага Яна Радзівіла, роднага брата Мікалая Чорнага, а стрыечнага – Барбары.

Абурэнне супраць маладога караля ахапіла ўсю шляхту. Усе гарады Польшчы былі літаральна абвешаны ўлёткамі, у якіх выкрываліся заганы паводзінаў новай каралевы і пералічаліся дзясяткі яе каханкаў. Адбыліся нават два замахі на жыццё Барбары, задуманыя гэтак, каб выглядалі на няшчасны выпадак. Злачынцаў не выкрылі, і пазней Жыгімонт Аўгуст меў падставы думаць, што тут не абышлося без удзелу маці. На сойме ў Пётркаве ўся палата дэпутатаў, стоячы на каленях, прасіла Жыгімонта Аўгуста, каб ён дзеля дабра краіны пакінуў жонку. Насуперак гэтаму кароль прывёз Барбару на Вавель, дзе яна заняла апартаменты Боны. Сама старая



Барбара Радзівіл і Жыгімонт Аўгуст

каралева таксама прыязджала ў ваколіцы Пётркава. Тут між ёю і сынам усчалася сварка. Каб падбіць шляхту супраць маці, кароль загадаў схапіць жанчыну з ейнага атачэння, якая нібыта была чараўніцаю, па мянушцы «Вялікая Галавешка». Жанчыну пасадзілі ў клетку ды мучылі, пакуль тая не прызналася, што на загад Боны мелася з дапамогаю чараў усмерціць Барбару. Боне не ўдалося вызваліць сваю дваранку – Вялікую Галавешку пакаралі смерцю.

### Таямнічая смерць

Крытыкаваны за бессэнсоўнасць для дзяржавы шлюб з гуллівай удавой хутка прызналі тыя яго праціўнікі, хто вырашыў нешта за сваё прызнанне атрымаць. У звязку з гэтым сталася актуальнаю і каранацыя Барбары, што адбылася 7 снежня 1550 г. Жыгімонт Аўгуст тады пісаў да сваякоў, што старая каралева хацела б лепш памерці, чым дачакацца такога ўзвышэння нявесткі.

Але амаль адразу пасля гэтай падзеі маладая каралева і вялікая княгіня літоўская пачала згараць як свечка, і ўсе спробы дактароў вярнуць яе да жыцця былі марныя. Пагалоска абвінаваціла ў гэтым старую каралеву, якая нібыта скарысталася са звычнага для роду Медзічы ўменне забіваць сваё ахвяры вытанчанай атрутай.

Праз пяць месяцаў па афіцыйным прызнанні 8 траўня 1551 году Барбара памерла. Яе пахавалі ў Вільні ў касцёле святога Станіслава.

Бона не брала ўдзелу ў пахаванні.

### Трэцяя княгіня

Як і ўсім папярэднім каралям, Жыгімонту Аўгусту трэба было мець наступніка, і таму ўвесну 1553 году ён рыхтаваўся да шлюбу з Кацярынай Аўстрыйскай, сястрою Лізаветы, першай жонкі. Яна была сёмай дачкой караля Фердынанда, і яе рана, 16-гадовай, аддалі за князя Мантуі Францыска Гансага. Але праз чатыры месяцы муж памёр, юная ўдава зноў аказалася на выданні. Галоўнай падставай шлюбу Жыгімонта Аўгуста з Кацярынай сталі польскія апасенні, што да яе пасватаецца Іван Грозны, і гэта ўзмацніць маскоўскую пагрозу. Кацярына, ведаючы самотнае жыццё сваёй сястры пад ціскам Боны, не надта імкнулася пабрацца з Жыгімонтам Аўгустам. Тым не менш шлюб адбыўся, на заручынах Жыгімонта Аўгуста заступаў Мікалай Радзівіл Чорны, брат памерлай Барбары. Вяселле гулялі ў Кракаве, а ўжо праз два тыдні стала зразумела, што добрых стасункаў паміж сужонцамі не будзе. Супраць новай каралевы надта інтрыгаваў Мікалай Радзівіл Чорны, не жадаючы страчваць свой уплыў на Жыгімонта Аўгуста.

Як і дзве папярэднія жонкі, Кацярына не цяжарала, у 1558 годзе цяжка захварэла, і пасля таго намагалася вырвацца ад Жыгімонта Аўгуста да дому. Дайшло да таго, што ў 1565 годзе вялікую княгіню хацелі атруціць дваране Жыгімонта. Наступным годам, калі за яе заступіўся брат Максіміліян, які стаў імператарам, ёй удалося выехаць у Вену. Пачатак гэтага няўдалага шлюбу Бона назірала здалёк, бо Жыгімонт Аўгуст проста не зважаў на сваю маці, і, пазбягаючы яе, не дапускаў ніякіх сустрэчаў.

### Недараваная

Ён лічыў маці вінаватай у смерці сваіх першай і другой жонак і непрыхавана яе ненавідзеў. Немагчымасць кантактаваць з сынам, адсутнасць рэальнай улады вымусілі Бону пакінуць Польшчу, што аднак далося ёй надта не проста, бо сын адмаўляўся выпусціць яе, каб не звезла з сабой грошы. Заступніцтва англійскай каралевы Марыі Тудор, сваячкі Боны, і дачкі Ізабэлы, якая была каралевай Венгрыі, знялі забарону на выезд. Бона Сфорца выехала з Варшавы ў лютым 1556 году. Перад каралеваю пад вартаю ехалі 24 вазы з серабром, золатам і каштоўнасцямі. Бальшыню гэтых багаццяў далі Боне яе ўладанні на Беларусі. У красавіку праз 38 гадоў адсутнасці на радзіме Бона прыехала ў Венецыю.

Памерла Бона зусім адзінокай, маючы 63 гады. Цела старой каралевы паклалі перш у замкавай капліцы, дзе яно ледзь не згарэла, калі труну ахапіў агонь ад свечак, калі ўсе адышліся ад яе. Жыгімонт Аўгуст нават не выказаў жалю, калі паведамляў сенату пра смерць сваёй маці, былой каралевы польскай, вялікай княгіні літоўскай. Ён ёй не дараваў.

### Зломак

Безумоўна, Бона Сфорца заслугоўвала на ўдзячнасць сына. Каб не яе намаганні, ніколі не быў бы ён абраны вялікім князем на Літве і каралём у Польшчы.

Аднак, як бальшыня разбэшчаных дзяцей, ён лічыў вінаватымі ўсіх апроч сябе. У рэшце рэшт гэтых вінаватых не стала побач, і Жыгімонт Аўгуст застаўся адзін. Бяздзетны, адзінокі, дажываў ён свой век, зводзячы разам з сабой з польскага трону дынастыю Ягайлавічаў. На Варшаўскім сойме 1563–1564 гадоў ён перадаў свае дзедзічныя правы на Вялікае княства Літоўскае польскай кароне, а праз пяць год падпісаў Акт інкарпарацыі да Польшчы вялізных абшараў тэрыторыі ВКЛ – Падляшша, Валыні, Падолля і Кіеўшчыны. Саслабелае ў Лівонскай вайне Вялікае княства мусіла сцярпець гэтую анексію. Можа і не зусім па ўласнай волі, але Жыгімонт Аўгуст зрабіў тое, чаго не рабілі ягоныя бацька, дзед і прадзед. Не здолеў ён і апекаваць дэкларараваную талерантнасць. Менавіта ён дазволіў з'яўленне ў Польшчы і ВКЛ езуітаў, якія распачалі тут контррэфармацыю. Не здолеў ён і арганізаваць адпор маскоўскаму нашэсцю, і захопленыя тэрыторыі адваяваў наступны кароль Стэфан Баторы.

Жыгімонт Аўгуст памёр у чэрвені 1572 году. Яго трэцяя жонка, Кацярына, каралева польская і вялікая княгіня літоўская, памерла ў Лінцы чатыры месяцы перад тым. Як і з маці, Жыгімонт Аўгуст з ёй не развітаўся.

Ці быў хто з гэтых людзей шчаслівы, не адчуў падману жыцця – таямніца, якую кожны знёс з сабой.

# Кошт прыгажосці

За апошнія дзесяць гадоў насельніцтва Расіі скарацілася на 4 мільёны чалавек да цяперашніх 144 мільёнаў, адзначаюць дэмографы ААН. Калі б не тыя сотні тысяч, якія перасяліліся ў Расію з былых савецкіх рэспублік, сітуацыя выглядала б яшчэ горшай. Да 2050 году, прагназуе ААН, расійскае насельніцтва скароціцца на траціну і складзе 100 мільёнаў чалавек.

Толькі 50 працэнтаў расійскіх мужчын, якім цяпер па 20 гадоў, мае шанец дажыць да 60 гадоў. За апошнія гады скараціўся таксама ўзровень нараджальнасці, а здаровымі нараджаецца толькі кожнае трэцяе дзіця.

Пагоршылася ахова здароўя. Бясплатную амбулаторную медыцынскую дапамогу аказваюць толькі пры няшчасных выпадках. У іншых выпадках расійскія пацыенты вымушаны амаль усё аплачваць самі: медыкаменты і ўзнагароджанне для дактароў. Зразумела, што гэтакую магчымасць маюць няшмат расійскіх людзей.

Як супрацьвага цяпер прапагандуецца мода на здароўе, на заняткі фізкультурай. Прыклад падаюць забяспечаныя слаі грамадства.

Спартыўны чын жыцця прэзідэнта Пуціна, які любіць горныя лыжы, плавае і займаецца дзюдо, паўплываў на стварэнне новага тыпу чыноўнікаў - яны заўжды знаходзяцца ў добрай спартыўнай форме. Сёння абарот маскоўскіх трэнажорных заляў складае за год мінімум 200 мільёнаў еўра, а тэндэнцыя ўзрастання попыту паказвае, што гэты сектар паслугаў можа стаць адным з самых папулярных для інвеставання капіталаў.

Кампанія «Планета Фітнес» ужо адчыніла ў Маскве 9 цэнтраў, сяброўства ў якіх абыходзіцца ў 200 еўра штомесяц, а гэта эквівалентна чатыром зарплатам расійскага настаўніка ці доктара паліклінікі.

«Планета Фітнес» абслугоўвае багатых палітыкаў, журналістаў, прадпрымальнікаў, банкіраў і прадстаўнікоў расійскага шоу-бізнесу. Цэнтральны клуб кампаніі адкрыты 24 гадзіны ў суткі. Спектар прапанаваных цэнтрам паслугаў – танцы, каратэ, бокс, некалькі праграмаў па ўмацаванні мышачнай масы, ёга, разнастайныя праграмы па расслабленні.

На ўваходзе ў элітную трэнажорнную залю стаіць ахова. Іхная болей ці меней тактычная прысутнасць з’яўляецца гарантыяй таго, што кліенты могуць расслабіцца і пакінуць свае клопаты за дзвеярамі залі. Але ёсць сярод кліентаў і такія, хто лічыць за лепшае трэніравацца ў атачэнні ўласных целаахоўнікаў. «Я ні разу ў жыцці не бачыла трэнажорнай залі, у якую, каб патрапіць, неабходна прайсці праз металашукальнік», – запэўнівае амерыеканка, якая працуе ў Маскве і мусіць штомесяц плаціць 200 еўра за заняткі ў добрай спартыўнай залі.

Спартыўны цэнтр «World Class» лічыцца адным з самых прэстыжных. Яго заснавала майстар спорту СССР па фехтаванні Вольга Слуцкер, сёння сетку «World Class» складаюць чатыры трэнажорныя залі. Цэны тут розныя і арыентаваныя на пакупніцкія здольнасці і сацыяльную структуру раго раёна, у якім яны знаходзяцца. Самы элітны клуб знаходзіцца за межамі Масквы, паблізу пасёлка Жукаўка, дзе стаяць урадавыя дачы. Членская картка гэтага клуба каштуе 4000 еўра ў год на аднаго чалавека. Крыніцы ў гэтым спартыўным клубе, якія пажадалі застацца невядомымі, сцвярджаюць, што жонка прэзідэнта – Людміла Пуціна, а таксама яе дочкі Маша і Каця займаліся ў Жукаўцы датуль, пакуль з меркаванняў асабістай бяспекі не вырашылі працягваць трэніроўкі ў сябе дома. Да іх дамоў прыязджае трэнер з цэнтра, які дае ім урокі камбінаванага танцу, некалькі элементаў розных стыляў ірландскага танцу, лацінаамерыканскага, джаз, поп. У цэнтральнай трэнажорнай залі «World Class», якая знаходзіцца за будынкам Міністэрства ўнутраных справаў, кошты на паслугі ніжэйшыя – гадавая клубная карта каштуе тут 1500–2000 еўра.

У элітных гімнастычных залях ёсць і цэлы комплекс дадатковых паслугаў: стрыжка, масаж, гідрамасаж, фітатэрапія, салярыі, ванны з марскімі водарасцямі, праграмы па амаложванні, заснаваныя на ўжыванні святла ці лазера. Цэны розныя. У «Планеце Фітнес» паўгадзінны сеанс масажу каштуе каля 30 еўра, чыстка скуры на твары – 120–150 еўра, у залежнасці ад касметычных прэпаратаў, а стрыжка, укладка, мэліраванне – 150 еўра. Гэта астранамічныя лічбы для сярэдняга расіяніна.

Адна дама, добра паінфармаваная пра жыццё «вышняга свету», расказвае, што, клапоцячыся пра свой выгляд, заможныя масквічы стараюцца карыстацца парыкмахерскімі, падобнымі «Далорэс», адна з пастаянных кліентак якой – дачка Барыса Ельцына Таццяна. Іншым разам сюды зазірае і жонка прэзідэнта – Людміла Пуціна. Яшчэ адным заўсядатарам салонаў прыгажосці «Далорэс» лічыцца лідэр Саюзу правых сілаў Барыс Нямцоў, які, выконваючы парады кансультантаў, сочыць за сваімі кучарамі, якія робяць яго непажадана юным. Апроч таго, Нямцоў кінуў паліць і займаецца ў трэнажорнай залі.

**El Pais**

# *Смог - забойца*



На нядаўнім Сусветным саміце па ўстойліваму развіццю, які праходзіў у Ёханесбургу, эксперты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) выступілі са справаздачай, якая падае даволі змрочныя прагнозы. Яны сцвярджаюць, што смог, які ўтварыўся над буйнейшымі гарадамі і прамысловымі цэнтрамі Еўропы, дасягнуў пагрозлівых памераў – з-за яго да 2020 году могуць загінуць 8 мільёнаў чалавек. Эксперты СААЗ даводзяць, што «ў складзе еўрапейскага воблака самыя небяспечныя – гэта часцінкі памерам меней за адну дзесяцітысячную долю міліметра». Прыкладна 60 працэнтаў гэтых часцінак з’яўляюцца прадуктамі аўтамабільных рухавікоў, а яшчэ 40 працэнтаў – награвальных і энергетычных установак.

# Джымі Картэр: Новы твар Амерыкі непакоіць

У палітыцы Злучаных штатаў, якая датычыць правоў чалавека, нашай ролі ў супольстве нацыяў і блізкаўсходняга мірнага працэсу, адбываюцца карэнныя перамены.

Цалкам зразумела, з’явіліся некаторыя новыя падыходы, абумоўленыя хуткім і прадуманым разам з дарадцамі адказам прэзідэнта ЗША Джорджа Буша на трагедыю 11 верасня, але адначасна дзейнічаюць іншыя падыходы, як уяўляецца, прадыктаваныя групай кансерватараў, якія пад прыкрыццём абвешчанай вайны супраць тэрарызму спрабуюць рэалізаваць свае амбіцыі.

Наша краіна, на якую раней ва ўсім свеце глядзелі як на галоўнага абаронцу правоў чалавека, стала асноўным аб’ектам крытыкі міжнародных арганізацыяў, заклапочаных гэтымі фундаментальнымі прынцыпамі дэмакратычнага жыцця. Мы ігнаруем ці мірымся са злоўжываннямі ў краінах, якія падтрымліваюць нашы антытэрарыстычныя намаганні, і ў той жа час самі арыштоўваем амерыканскіх грамадзянаў як «салдатаў праціўніка», таямніча і на неакрэслены тэрмін бярэм іх пад варту, не падаючы абвінавачванняў у якім-небудзь злачынстве і без права на адваката.



Джымі Картэр – былы прэзідэнт ЗША

Гэтак жа некалькі тысяч узятых у палон салдат руху «Талібан» застаюцца ў зняволенні на ваеннай базе Гуантанама, пры гэтым міністр абароны ЗША заяўляе, што яны не будуць выпушчаны на свабоду, нават калі іх будуць судзіць і прызнаюць невінаватымі. Гэтыя нашы акцыі падобныя на акцыі тых рэжымаў, якія злоўжываюць уладай і якія гістарычна асуджалі амерыканскія прэзідэнты.

Хоць сам прэзідэнт не імкнецца выказаць сваю думку, але на амерыканскі народ амаль штодня сыплюцца заявы віцэ-прэзідэнта ды іншых вышэйшых афіцыйных асоб, у якіх сцвярджаецца, што нам пагражае вялікая небяспека з боку зброі масавага паражэння (ЗМП) Ірака, і ўтрымоўваюцца абяцанні адхіліць Садама Хусейна ад улады пры падтрымцы ці без удзелу якіх-небудзь саюзнікаў.

Як настойліва падкрэсліваюць замежныя саюзнікі, адказныя лідэры былых адміністрацый і цяперашнія адказныя асобы, сёння не існуе бачнай пагрозы Злучаным Штатам з боку Багдада. З улікам інтэнсіўнага маніторынгу і безумоўнага амерыканскага ваеннага перабольшання любы ваяўнічы крок Хусейна супраць каго-небудзь з суседзяў Ірака, нават самы нея

значны апрабавальны ядзерны выбух (неабходны для стварэння ядзернага боезапасу), адчувальная пагроза ўжывання ЗМП ці перадача тэхналогіяў ЗМП тэрарыстычным арганізацыям сталіся б самазабойчымі для яго. Але цалкам магчыма, што падобная зброя будзе ўжытая супраць Ізраіля ці нашых войскаў у адказ на амерыканскі напад.

Мы не можам ігнараваць распрацоўкі хімічнай, біялагічнай ці ядзернай зброі, але наша, пачатая ў аднабаковым парадку, вайна супраць Ірака не з’яўляецца правільным адказам. Існуе тэрміновая неабходнасць ў акцыі ААН з мэтаю прымушэння Ірака да аднаўлення дзейнасці інспектараў па ўзбраенням на яго тэрыторыі. Але, магчыма, мы спецыяльна робім гэты крок менш магчымым, калі адхіляем ад сябе патрэбных нам саюзнікаў.

Мы дзейнічаем контрпрадуктыўна і кінулі выклік астатняму свету, калі адмовіліся ад амерыканскіх абавязацельстваў па добра распрацаваных на перамовах міжнародных пагадненнях. Катэгарычная адмова ад пагадненняў аб кантролі над ядзернай зброяй, ад канвенцыі па біялагічнай зброі, ад дамовы па ахове навакольнага асяроддзя, ад прапановаў пра забарону катаванняў і пакаранні ваенных злачынцаў іншым разам суправаджалася эканамічнымі пагрозамі ў адрас тых, хто мог бы з намі не пагадзіцца. Гэтыя аднабаковыя акты ўсё болей ізалююць Злучаныя Штаты ад тых самых краінаў, якія нам патрэбныя для барацьбы з тэрарызмам.

Трагічна, што наш урад адмаўляецца ад патранажу перамоваў паміж палесцінцамі і ізраільцянамі. Наша відочная палітыка заключаецца ў падтрымцы ледзь не кожнай акцыі Ізраіля на акупаваных тэрыторыях і агульным асуджэнні і ізаляцыі палесцінцаў як ворага ў нашай вайне з тэрарызмам, у той час як ізраільскія пасяленні пашыраюцца, а палесцінскія анклавы меншаюць.

Відаць, унутры адміністрацыі ЗША ўсё яшчэ ідзе змаганне з-за нашай блізкаўсходняй палітыкі. Ясныя абавязацельствы прэзідэнта трымацца асноўных рэзалюцыяў ААН і падтрымліваць утварэнне Палесцінскай дзяржавы, па сутнасці, адхінутыя заявамі міністра абароны ЗША, што пры яго жыцці «будзе існаваць нейкая агульнасць, якая будзе створана», і яго спасылкамі на «так званую акупацыю». Гэта сведчыць пра радыкальны адыход ад палітыкі любой амерыканскай адміністрацыі з 1967 году, якая заўжды грунтавалася на адыходзе Ізраіля з акупаваных тэрыторыяў і сапраўдным міры паміж ізраільцянамі і іх суседзямі.

У Вашынгтоне цяпер пануюць ваяўнічыя і нязгодныя галасы, але яны пакуль не адлюстроўваюць канчатковых рашэнняў прэзідэнта, кангрэса ці судоў. Выключна важна, каб верх узялі гістарычныя і добра абгрунтаваныя амерыканскія абавязацельствы – у адносінах міру, справядлівасці, правоў чалавека, навакольнага асяроддзя і міжнароднага супрацоўніцтва.

**The Washington Post**

# Якім быць пляцу Незалежнасці?

Ідзе рэканструкцыя галоўнай плошчы краіны. Рэканструкцыя прадбачыць усталяванне на ёй помніка Скарыну.



Але ж для плошчы Незалежнасці гэтага замала па сімвалічным значэнні. Тут павінна быць усталявана манументальная кампазіцыя, якая ўвасобіць усю тысячагадовую гісторыю Беларусі – тую цяжкую гісторыю, якая праз пакуты, ахвяры і гераізм дала мажлівасць Беларусі набыць незалежнасць, дзяржаўнасць, і права займець у беларускай сталіцы адпаведную плошчу. Пакуль што гэтая мінская плошча – гарадская пустка. Назоў плошча Незалежнасці нічым тут не падмацаваны. З такім жа поспехам яе можна называць і плошчай Леніна, і Урадавым пляцам, плошчай Чырвонага касцёла ці Універсітэцкай. Але вось калі на гэтым пляцы паўстане манументальная кампазіцыя з адлюстраваннем тысячагадовай гісторыі краіны, з яе выбітнымі постацямі ад Скарыны, Еўфрасінні Полацкай да Чарвякова, Жылуновіча, Машэрава – вось толькі тады назоў пляц Незалежнасці набудзе сапраўднасць. Месца гэтай кампазіцыі – на выхадзе плошчы на праспект Скарыны.

Спадзяюся, што думка мая – слушная і знойдзе ў праекціроўшчыкаў ды і ў нашай беларускай грамады падтрымку.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

## Здароўе

# *Жанчыны жывуць болей, бо спяць лепей*

Амерыканскія даследнікі высвятлілі, што жанчыны жывуць на 6–7 гадоў болей за мужчын, бо ў іх больш глыбокі сон.

Аляксандрас Угонтцас з дзяржаўнага універсітэта Пенсільваніі, які ўзначальваў даследаванне, пагадамляе, што часцей за ўсё ад дыябету, сардэчных ды іншых хваробаў пакутуюць тыя мужчыны, якія позна кладуцца, варочаюцца, торгаюцца, з цяжкасцю засынаюць, адчуваюць складанасці з дыханнем у часы сну.

Даследнік выказаў меркаванне, што мастацтва глыбокага сну – вынік эвалюцыйнай адаптацыі да выканання мацярынскіх абавязкаў. Жанчыне неабходна прачынацца пасярод ночы, каб карміць дзіця. Страта сілаў кампенсуецца добрым глыбокім сном. Вучоныя з амерыканскага Нацыянальнага інстытута здароўя вымяралі ўзроўні ўтрымання гармонаў у крыві 25 добраахвотнікаў, якія спачатку чацвёра сутак спакойна спалі па восем гадзінаў, а потым восем сутак – толькі па шэсць. І мужчыны, і жанчыны – валанцёры, вымушаныя недасыпаць на працягу тыдня, – горш выконвалі тэсты на ўвагу, у іхнай крыві павысіўся змест інтэрлейкіна-6, маркера запаляльных працэсаў. У мужчын павысіўся ўзровень утрымання фактару пулінага екрозу. Гэтыя два гармоны павышаюць супрацiўленне інсуліну, што можа прыводзіць да паўнаты. Аказалася, што жанчыны спяць лепей. У сярэднім працягласць глыбокага сну ў жанчын складае 70 хвілін, у мужчын – 40.

## Пошта

### Трэба весці дыялог

У разнастайным акіяне сённяшняй прэсы мне, відаць, як і многім чытачам, заўсёды хацелася знайсці «сваю» газету – змястоўную, шчырую і неабыякавую як да праблем аднаго чалавека, так і да лёсу Бацькаўшчыны. Безумоўна, цяжка аб'ектыўна меркаваць пра выданне толькі па першаму нумару. Але хіба не бывае вернага сяброўства, якое завязваецца за пяць хвілін? Пра гэта падумалася, калі я прачытала зварот да чытачоў галоўнага рэдактара «Новага часу» Алены Анісім. Знаёмства з новай газетай адбылося, знаёмства, асабіста для мяне, цікавае і карыснае. Хочацца пажадаць заснавальнікам «Новага часу» плёну ў працы, а нам, чытачам, – хутчэй убачыць наступны нумар, каб працягнуць распачаты на старонках газеты дыялог, бо, сапраўды, «сукупна зробім болей і лепш».

**Таццяна МАРАКУЛІНА, Мінскі раён**

### Добры субяседнік

Сёння людзі, якія размаўляюць па-беларуску, знаходзяцца нібы ў рэзервацыі. А так хочацца знайсці субяседніка па душы. Таму новая газета – вялікая падтрымка такім людзям. Іншыя газеты, асабліва, як прынята казаць, жоўтая прэса, надзвычай агрэсіўныя. Між тым, «Новы час» прыемна вылучаецца тым, што не агітуе. Але, разам з тым, напамінае пра важныя жыццёвыя праблемы. Як мне здаецца, тэматыка газеты цікавая людзям рознага ўзросту. Стаража́ытнасць мякка пераплятаецца з сучаснасцю. Пры гэтым чытач не губляе любоў да Беларусі, да мовы. Ёсць карысныя рэчы для настаўніка. Для мяне самы лепшы матэрыял – зварот «Размаўляем па-беларуску». Нават калі ён знойдзе малую падтрымку, усё роўна ён вельмі важны і патрэбны.

**Людміла АЛЯКСАНДРОВІЧ, настаўніца пачатковых класаў, Мінск**

# *Знаходкі ў старым завулку*

Невялікая арка старога дома, далей вузенькі ходнік, які вядзе да тылоў кафедральнага сабора, касцёла найсвяцейшай Панны Марыі. Тут, у старадаўнім мінскім двары па адрасе пл. Свабоды, 7Б, праходзілі навуковыя даследаванні культурнага пласта і падмуркаў старога дома. Галоўнай мэтай іх з'яўлялася рэстаўрацыя будынка, які датуецца архітэктарамі пачаткам 19 стагоддзя. На сённяшні дзень закончылася першая частка археалагічных даследаванняў. Ускрыта 30 кв. метраў культурнага пласта траншэі закладзенай вакол паўночнай і заходняй частак падмурка дома на глыбіню да 2 м. Сабрана звыш 1,5 тысячы знаходак, датуемых ад 20 да 17 стагоддзяў. Выяўлена мноства фрагментаў з гліны: познесярэднявечнай кафлі, цэглы-пальчаткі, дахоўкі, посуду, тытунёвых люлек. З металічных вырабаў: будаўнічыя цвікі, абутковыя падкоўкі, манеты, так званыя барацінкі. На самым дне траншэі адкрыліся струхнелыя драўляныя рэшткі ніжняга вянца пабудовы 17 стагоддзя. Вялікія камяні, пакладзеныя на старажытную дзённую паверхню, вызначылі месца размяшчэння печы ў адным з яе кутоў. Фрагменты геральдычнай кафлі павядамілі аб уладальніках сядзібы – Глебавічах. Праслойка вугалю і попелу, а таксама развал печы і бітай кафлі, некалькі круглых свінцовых куль агнястрэльнай зброі засведчылі жорсткія падзеі вайны 1654-1661 гадоў з Расіяй.

Адначасова з археалагічнымі даследаваннямі культурнага пласта будаўнікамі збівалася тынкоўка з вонкавай і ўнутранай паверхні сценаў. Адкрыліся нябачныя ўжо многа стагоддзяў і закладзеныя цэглай каналы пячных, счарнэлых ад дыму, адтулін, невялікія арачныя праёмы вакон сценаў першага паверху і скляпенняў. Стратыграфія залягання датуемых пластоў, памеры і склад цэглы будынка аднеслі на больш ранні час дату ўзвядзення гэтага будынка, вызначанага гісторыкамі і архітэктарамі, і дазваляюць меркаваць, што ён пабудаваны ў канцы 18 стагоддзя.



**За гэтым мінскім касцёлам стаяла некалі сядзіба Глебавічаў**

З адчыненых агромістых вокнаў музычнай школы, што стаіць побач, даносяцца фартэпіянныя партыі паланэзаў. Наша мінулае гучыць і жыве сярод нас.

**Пётр РУСАЎ**

## Спорт

# *Праграму Алімпіядаў чакаюць перамены*

Выканкам Міжнароднага алімпійскага камітэта (МАК) прапанаваў шэраг радыкальных зменаў для праграмы наступных як зімніх, гэтак і летніх Алімпіяд.

Што датычыць Белых Гульняў, дык іх праграма пашырыцца. Галоўны прэтэндэнт – гонка біятланістаў з масавым стартам. Ва ўсялякім разе, толькі гэтае спаборніцтва было афіцыйна зацверджанае ў якасці новай дысцыпліны на Алімпіядзе ў 2006 годзе. На бліжэйшых гульнях у італьянскім Турыне спаборніцтвы будуць толькі паказальнымі. Гэта значыць, што пераможцы гонак алімпійскіх медалёў пакуль не пабачаць.

Такія віды спорту, як лыжнае скалалазанне, спуск на санях па натуральнай трасе, скачкі на горных лыжах з трампліна і камандныя спаборніцтвы саначнікаў, члены выканкама выпашылі ў праграму не ўключаць. Але ў чарговы раз пацвердзілі, што МАК не пойдзе на выключэнне фігурнага катання.

У праграме летніх Гульняў зменаў будзе болей. Па словах прэзідэнта МАК Жака Рогe, у лістападзе будзе разгляджанае пытанне аб выключэнні з раскладу 29-й Алімпіяды ў 2008 годзе бейсболу, сучаснага пяціборства і софтболу. Затое будзе размова аб уключэнні гольфа і рэгбі пры ўмове ўдзелу буйнейшых спартсменаў.

Апроч таго, выканкам МАК не рэкамендаваў уключаць у праграму Алімпіяд спаборніцтвы яшчэ па 14 відах спорту. Менавіта, гэта серфінг, пола, спаборніцтвы на ролікавых каньках, шахматы, брыдж, більярд, буль, боўлінг, спартыўныя танцы, водныя лыжы, падводны спорт, ракетбол, спаборніцтвы на паветраных шарах.

Разам з тым яшчэ будзе вывучацца пытанне адносна ушу, уключэння якога ў праграму летніх Гульняў дамагаюцца кітайскія прадстаўнікі, паколькі ў 2008 годзе Алімпіяда пройдзе ў Пекіне.

Таксама камісія па праграме рэкамендавала выканкаму МАК выключыць некаторыя спартыўныя дысцыпліны ў конным спорце, барацьбе і слаламе на каноэ. Але пашанцавала жанчынам-шаблісткам. МАК прыняў рашэнне ўключыць у алімпійскую праграму па фехтаванні іх асабістыя спаборніцтвы ўжо ў 2004 годзе.

У Афінах будзе разыграны 301 камплект медалёў у 28 відах спорту, а змагацца за іх прыедуць каля 10,5 тысяч лепшых спартсменаў свету. Пашанцуе таму, хто стане гледачом на гэтым свяце спорту.

# Польскія прыколы

Стоп! Нелегальны пера ход беларускай мяжы. На выхад! Ну, давай, давай! – крычыць дзяцюк ў мундзіры беларускага пагранічніка. Дызель са скрыгатам тармазоў спыняецца пасярод Белавежскай пушчы, і некалькі ўзброеных беларусаў імгненна ўскокваюць у вагон. Каля сотні турыстаў заміраюць у нерухомасці. Ехалі з Гайнаўкі ў Тапіла, блізкае да польска-беларускай мяжы. «Можа машыніст забыўся спыніцца і заехалі да суседзяў? – выказваецца з пачуццём жаху праваднік. – Халера, ну і патрапілі!»

На зямлі сядзіць камандзір памежнага аддзялення. З кішэні тырчыць бутэлька гарэлкі, але цвёрдай рукой набірае нумар на вайсковым радыётэлефоне. «Дакладаю, што за паўкіламетры ад нашай граніцы схапілі шпіёнаў і кантрабандыстаў. Пасля праверкі даставім іх у Мінск», – гаворыць у слухаўку. - Пра Польшчу можаце забыць назаўжды. Ведаеце, што такое лагер і Сібір? – пагрозліва пытаецца ён у затрыманых.

А ў гэты час яго падначаленыя змрочна правяраюць дакументы і аглядаюць торбы турыстаў.

«Знайшла наркотыкі!» – громка крычыць дужая беларуска і выцягвае з вагона кіраўніка экскурсіі. Памежнікі штуршкамі гонюць яго да бліжэйшага кустоўя. Праз хвіліну адтуль чуецца гук стрэлу...

Ужо некалькі гадоў спецыяльнасцю Войцэха Рынажэўскага стала арганізацыя «нападаў беларускіх пагранічнікаў». Цяпер усё часцей арганізатары экскурсіяў жадаюць такім атракцыёнам «аздобіць» паездку польскіх і замежных турыстаў у Белавежскую пушчу.

«Спаткання з зубрам ім не абяцаем, але затое вока ў вока становяцца з беларускай уладай», – гаворыць Дарота Папоўска з Варшавы.

У чэрвені арганізавала міжнародную канферэнцыю аб уваходзе Польшчы ў Еўрапейскі Саюз. Напрыканцы запрасіла ўдзельнікаў на паездку цягнічком па пушчы... «Сыграная сцэна на мяжы была для іх нагэтулькі верагодная, што ва ўсіх падскочыў адрэналін, але потым было смеху. Смяяліся і самі з сябе, са сваёй веры, што так выглядае польская граніца на ўсходзе».

Сцэнар «нападаў» заўжды падобны. Турысты «памылкова» пераходзяць польска-беларускую мяжу, ці машыніст «забываецца» спыніць цягнік, ці група людзей «памыляецца», ідзе не той сцежкай, блукае па пушчы і аказваецца ў руках беларускіх пагранічнікаў.

Аднак розніцца «кантроль» і «стаўленне да парушальнікаў» – ад лагоднага для дзяцей («не бойцеся, савецкія салдаты не зробяць вам злога»), да вастрэйшага – са стрэламі ў зараслях. Розніцца і рэакцыя «затрыманых».

Першы інсцэніраваны напад быў арганізаваны, калі вузкакалейкай выбраліся да Тапіла біскуп Драгічына і праваслаўныя святары. Калі з'явіліся беларускія пагранічнікі, духоўныя нават былі гатовыя вяртацца ў Польшчу пешшу.

На экскурсіі, арганізаванай іншым разам для прадстаўнікоў мас-медыя, журналістка аднаго з агульнапольскіх часопісаў пачала прасіць, каб яе адпусцілі, бо нарадзілася ў Маскве і таму заслугоўвае на большую літасць, чым яе калегі.

**Wprost**



## Знакамітасці



**Біл Гейтс і Джэймс Камерон прэзентуюць новае дасягненне Microsoft. Іхні Windows Media Player 9 па якасці карцінкі і гуку нашмат пераўзыходзіць любыя дасягненні DVD. Кіно на камп'ютары будзе не горшым, чым у кіназалі**

# *Еўрапейскія пенсіянеры*

У Рыме адбыўся «сарэбраны саміт», прысвечаны еўрапейскім насельнікам сталага веку. Саміту папярэднічала апытанне, арганізаванае фармацэўтычнай кампаніяй Pfizer, якая спецыялізуецца на вытворчасці разрэкламаванай «Віягры». У часе даследавання былі апытаныя 2500 еўрапейцаў ва ўзросце 55 гадоў і старэйшыя, у іх пыталіся, як яны харчуюцца, ці займаюцца спортам, як часта ўжываюць алкаголь, як да іх ставяцца дзеці і ўнукі.

Дзве трэці апытаных лічаць, што грамадства недаацэньвае іхні вопыт і навыкі, меней за палову задаволеныя памерамі пенсіяў, кожны трэці лічыць, што людзі сталага веку аказваюцца ўсё болей аддаленыя ад сваіх сем'яў.

Даныя па розных краінах істотна розняцца. Так, палова італьнцаў лічыць сябе ізаляванымі ад сем'яў, у той час як у Вялікабрытаніі так адчувае траціна апытаных, а ў Германіі – толькo чвэрць. У Францыі 50 працэнтаў пенсіянераў лічыць галоўнай апорай свайго сужонца ці партнера. Для Вялікабрытаніі гэты паказчык склаў 43 працэнта, магчыма гэта злучана з большай колькасцю разводаў сярод брытанцаў.

Іспанцы меней за ўсіх паляць (12%), а ў Італіі і Вялікабрытаніі ад тытуню не адмовіліся 20 працэнтаў паджылых людзей. Таксама сярод іспанцаў болей тых, хто ўтрымліваецца ад алкаголю (40%), а сярод французаў такіх у 2 разы меней (20%).

Самы найбольшы працэнт аматараў закласці за каўнер сярод брытанцаў (20%). Аднак пры гэтым брытанцы ўдзяляюць больш увагі заняткам фізкультурай (аж 72%) – катаюцца на ровары, плаваюць, гуляюць у гольф і займаюцаа фітнесам (трэніроўкамі ў спецыяльных залях) найменш як два разы на тыдзень. Па «фізкультурным» паказчыку брытанцаў апярэджваюць толькі немцы (81%), а самыя неактыўныя ў гэтых адносінах італьянцы – 40 працэнтаў паджылых людзей тут не выказваюць «спартыўных» памкненняў.

Магчыма, фізічныя практыкаванні для мноства людзей у гадах сталі своеасаблівай кампенсацыяў за іншыя страты. Прыкладам, 42 працэнты паджылых брытанцаў заявілі, што болей не займаюцца сэксам, а яшчэ 20 працэнтаў ўхіліся ад адказу. Працягваюць сэксуальная жыццё 37% брытанцаў, для Іспаніі гэты паказчык склаў 52 працэнты, для Францi – 50 працэнтаў. Пры гэтым 24 працэнты брытанцаў ўпэўненыя, што іх сэесуальнае жыццё актыўнае, у Францыі так лічаць 30 працэнтаў пенсіянераў, а ў Іспаніі - 18 працэнтаў.

Французскія пенсіянеры могуць лічыцца самымі шчаслівымі, дзве траціны з іх задаволеныя сваёй пенсіяй. У Вялікабрытаніі задаволеных 55 працэнтаў, у Германіі – 45 , у Іспаніі – 33 , у Італіі – 29 працэнтаў людзей у гадах.

**The Guardian**




Новы Час

Галоўны рэдактар **Алена АНІСІМ**

**Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.**
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 23 сакавіка 2002 г.
Адрас:220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: tbm@lingvo.minsk.by

Рэдактар нумару **Канстанцін Тарасаў**
Камп'ютэрная вёрстка **Андрэй Дзецяроў**

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры перадруку ці выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы, не мае магчымасці ліставацца з чытачамі.
Чытацкая пошта публікуецца выбарачна паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
220004, Мінск, вул. Кальварыйская, 4. Замова № 181.
Падпісана да друку 17.09.2002 (12:00).
Наклад 1 500 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13